• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

26 лістапада 1996 г. аўторак, № 275 (23078)



# ЗВЯЗДА

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАЧЫНАЕ РЭАЛІЗАЦЫЮ РАШЭННЯЎ РЭФЕРЭНДУМУ

Як паведаміла карэспандэнту БЕЛТА прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, з 26 лістапада чакаюцца папярэднія перагаворы Аляксандра Лукашэнкі з дэпутатамі Вярхоўнага Савета па пытанню фарміравання Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу на аснове Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 года. Тым самым пачынаецца рэалізацыя рашэнняў рэферэндуму як волі народа, абавязковай для выканання ўсімі галінамі ўлады і на ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Гэты працэс паслужыць кансалідацыі беларускага грамадства, забеспячэнню грамадзянскага міру і стабільнасці ў краіне.

**БЕЛТА.**

## *ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...БЕЛАРУСЬ АХОПІЦЬ МОЦНАЯ ЭПІДЭМІЯ ГРЫПУ

**Перастрахавацца ад будзённых прастудных захворванняў пры пэўных намаганнях можна, а ці можна выратавацца ад «усёмагутнага» грыпу? Тым больш, калі пужаюць вірусам-мутантам, які пракочваецца па планеце, быццам смерч, раз у 20—30 гадоў, забіраючы мільёны чалавечых жыццяў...**

Як удалося высветліць у галоўнага эпідэміёлага Міністэрства аховы здароўя РБ Анатоля Кажамякіна, ад грыпу рэспубліцы, зразумела, нікуды не дзецца, толькі вось чакаемая ў гэтым годзе эпідэмія ад мінулагодніх нічым адрозніваецца не будзе.

Штогод ад грыпу церпяць 200—300 тысяч беларусаў, пэўным выключэннем стаў хіба што 1995 год, калі эпідэмія 1994 года крыху «спазнілася» і прыйшла на тэрыторыю Беларусі ў лютым 1995 года замест звычайнага снежня. А ўвосень прыйшла ўжо наступная эпідэмія, такім чынам колькасць «пацярпеўшых» аказалася большай, чым звычайна, — 800 тысяч захварэўшых. Але сёлета, як плануецца, грып «лютаваць» не павінен. У першую чаргу ён закране, натуральна, вялікія гарады. Але нават у Мінску колькасць захварэўшых на грып не павінна перавысіць звычайныя 10 працэнтаў ад агульнай колькасці насельніцтва горада (пры інтэнсіўных жа эпідэміях гэта лічба можа дасягаць 30—40 працэнтаў).

Пакуль узровень захворвання на грып адпавядае сезоннаму ўзроўню пад'ёму: эпідэмія яшчэ не пачалася, так што рэгіструюцца толькі адзінкавыя выпадкі захворвання на грып. Але для таго, каб не дапусціць «пажару» ва ўласным доме, аб здароўі трэба паклапаціцца ўжо сёння. У якасці прафілактычных мераў вельмі эфектыўны прыём аскарбінавай кіслаты. Па меры магчымасці ў рацыён харчавання медыкі рэкамендуюць уключаць таксама цытрусавыя, цыбулю і часнок, якія ствараюць інфекцыі «праблемы». Сярод медыцынскіх прэпаратаў лепш спыніцца на проціvірусных рэмантадзіне і інтэрфероне, бо іх айчыннае «паходжанне» гарантуе, што набыць іх будзе па сілах амаль кожнаму...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



## ПАДВЕДЗЕНЫ ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ РЭФЕРЭНДУМУ

**Выконваючая абавязкі старшыні Цэнтрвыбаркома Лідзія Ярмошына, назначаная на гэтую пасаду Прэзідэнтам А. Лукашэнкам, паведаміла папярэднія вынікі галасавання на ўсенародным рэферэндуме 24 лістапада. У краіне быў створаны 6681 участак для галасавання, у спісы ўнесена 7338265 грамадзян, прынялі ўдзел 6179629 выбаршчыкаў, або 84,2 працэнта. Вынікі па пытаннях размеркаваліся наступным чынам: 70,5 працэнта ад грамадзян, унесеных у спісы для галасавання, выказаліся за праект Канстытуцыі, унесены Прэзідэнтам А. Лукашэнкам, а за праект парламентарыяў — 7,9 працэнта.**



*У час прэс-канферэнцыі.* *Фота БЕЛТА.*

Грамадзяне Беларусі адмянілі Дзень незалежнасці 27 ліпеня і перанеслі яго на 3 ліпеня, калі Мінск быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. За гэта прагаласавалі 88,2 працэнта выбаршчыкаў, што прыйшлі на ўчасткі. За свабодны без абмежаванняў продаж зямлі выказаліся 15,3 працэнта, за адмену смяротнага пакарання — 17,9 працэнта выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні. Нечакана мала грамадзян падтрымалі ідэю прамых выбараў кіраўніцтва мясцовых выканаўчых органаў улады — усяго 29,9 працэнта, яшчэ больш незвычайным выглядае тое, што выбаршчыкі ў сваёй большасці выказаліся за тое, каб фінансаванне ўсіх органаў улады вялося не толькі з дзяржаўнага бюджэту і не абавязкова галосна. Магчыма, людзі не зразумелі гэтае пытанне, прагаласавалі ж «За» па апошняму пытанню бюлетэня 32,1 працэнта.

Даведацца ў Цэнтрвыбаркоме, колькі грамадзян прагаласавалі датэрмінова, карэспандэнту «Звязды» так і не ўдалося. Супрацоўнікі ЦВК матывавалі, што законам гэта не прадугледжваецца, і прадставілі справаздачнасць толькі на 10 гадзін раніцы 24 лістапада, калі вынікі папярэдняга галасавання ўліліся ў галасаванне ў дзень рэферэндуму да 10 гадзін. На 10 гадзін прагаласавалі 29,1 працэнта выбаршчыкаў, таму, улічваючы актыўнасць выбаршчыкаў, якая назіралася па тых акругах, дзе праводзіліся давыбары, можна зрабіць выснову, што з 9 па 23 лістапада прагаласавалі прыблізна 25 працэнтаў усіх грамадзян, унесеных у спісы. На 14 гадзін 24 лістапада лічба прагаласаваўшых склала 42,76, на 18 — 59,5, на 22 гадзіны — 84,05 працэнта. Такім чынам, за апошнія вячэрнія гадзіны прагаласавалі прыблізна чвэрць усіх выбаршчыкаў.

Па шэсцьдзесят адной акрузе, на якіх праводзіліся дадатковыя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета, выбары адбыліся, але з умовай 25-працэнтнай планкі яўкі галасуючых. У мінскіх акругах толькі у дзвюх (Купалаўскай і Маякоўскай) яўка выбаршчыкаў была ніжэй за 50 працэнтаў, затое ў магілёўскіх акругах яна вагалася ад 29,7 да 37,7 працэнта.

Пасля абнародавання папярэдніх вынікаў галасавання прэс-канферэнцыю правёў Прэзідэнт А. Лукашэнка, які быў задаволены вынікамі рэферэндуму, і заявіў, што, на яго думку, ён прайшоў бездакорна, таму ягоным апанентам цяжка будзе настойваць на незаконнасці і парушэннях падчас рэферэндуму. А. Лукашэнка падкрэсліў, што тыя матэрыялы, якія гучалі ў дзень галасавання па Беларускім радыё, ён не лічыць агітацыяй за яго, што выканаўчая ўлада выключала ўсякі ціск на выбаршчыкаў. Той факт, што прыблізна 25 працэнтаў беларускіх выбаршчыкаў з'явіліся на ўчасткі ў перыяд з 18 да 22 гадзін, А. Лукашэнка патлумачыў тым, што грамадзяне хутчэй за ўсё вярталіся з дачных участкаў. Паводле яго слоў, рэферэндум абышоўся краіне ў 17—20 млрд. рублёў, якія былі ўзяты з добраахвотных ахвяраванняў прадпрыемстваў і грамадзян краіны, а таксама некаторыя ўстановы і прадпрыемствы выконвалі пэўныя паслугі бясплатна. Цяпер Прэзідэнт разам з іншымі органамі ўлады будзе рабіць канкрэтныя крокі па рэалізацыі вынікаў рэферэндуму ў адпаведнасці з працэдурай, якая заключаецца ў апошніх главах адобранай Канстытуцыі. А. Лукашэнка спадзяецца завяршыць рэфарміраванне дзяржаўных органаў: парламента, Канстытуцыйнага суда, урада да калядных святаў. Ён упэўнены, што знойдзе згоду з дэпутатамі цяперашняга Вярхоўнага Савета, каб набраць з іх 110 членаў палаты прадстаўнікоў. Адносна членаў Канстытуцыйнага суда ён заявіў, што некаторыя члены сённяшняга саставу маюць шанцы ўвайсці ў будучы састаў, калі яны адыдуць ад сваіх палітычных прыхільнасцей.

А. Лукашэнка пацвердзіў сваю зацікаўленасць у міжнародным супрацоўніцтве, падкрэсліўшы, што наша замежная палітыка будзе шматвектарнай, што Беларусь хоча выконваць ролю моста паміж Усходам і Захадам, што нашай краіне месца ў сям'і еўрапейскіх дзяржаў, у тым ліку ў Савеце Еўропы. «Тыя апасенні, якія існуюць у заходніх дзяржавах аб дыктатуры ў нашай краіне, не маюць падстаў», — падкрэсліў А. Лукашэнка.

А. Лукашэнка яшчэ раз пацвердзіў, што Беларусь ёсць і застанецца суверэннай і незалежнай дзяржавай, і што пытанне ўваходжання Польшчы ў НАТО з'яўляецца ўнутранай справай гэтай дзяржавы, а пазіцыя Беларусі на гэта не здольна паўплываць. Такім чынам, падчас першай канферэнцыі пасля перамогі на рэферэндуме А. Лукашэнка крыху змяніў акцэнты сваёй знешняй палітыкі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ГАЛАСАВАННЕ ПРАЙШЛО СПАКОЙНА І АРГАНІЗАВАНА

**БРЭСТ**

У спакойнай абстаноўцы, без лішняй нервознасці, прайшло галасаванне па пытаннях рэферэндуму на Брэстчыне. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў абласной выбарчай камісіі, паводле папярэдніх даных, у ім прынялі ўдзел 88,8 працэнта выбаршчыкаў вобласці, якія маюць права голасу. А ў такіх раёнах, як Баранавіцкі, Драгічынскі, Жабінкаўскі і некаторых іншых, актыўнасць была яшчэ вышэйшая. У абласную камісію не паступіла ў гэты дзень ніводнай афіцыяльнай заявы ад наглядальнікаў наконт якіх-небудзь парушэнняў заканадаўства па правядзенню рэферэндуму. Праўда, на выбарчым участку № 7 горада Брэста адбыўся не зусім прыемны інцыдэнт, які, мяркуючы па ўсім, быў задуманы загадзя. За некалькі хвілін да закрыцця ўчастка тут з'явіўся малады прадстаўнік Украіны з пасведчаннем наглядальніка разам з некалькімі грамадзянамі, якіх ён назваў «групай суправаджэння». Яны хацелі прысутнічаць пры падліку галасоў. Калі члены ўчастковай камісіі растлумачылі гэтаму наглядальніку, якога на працягу дня тут не было, нормы нашага закона, то ён пачаў зрываць са стала абрус і раскідваць бюлетэні. А яго «група суправаджэння» дастала фотаапарат і пачала здымаць гэту непрыглядную карціну. У карэктнай форме гэтаму наглядальніку было растлумачана, што яго пасведчанне не дае права на такія хуліганскія дзеянні. Яму было прапанавана напісаць афіцыяльную заяву, калі ён з чым-небудзь не згодны, у абласную выбарчую камісію. Але зрабіць гэта ён адмовіўся. Работнікі міліцыі, якія прыбылі па выкліку членаў участковай камісіі, склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні і затрымалі хуліганаў.

Што ж датычыць вынікаў галасавання па сямі ўключаных у бюлетэнь пытаннях, то яны выглядаюць наступным чынам. Паводле папярэдніх даных, за прэзідэнцкі праект Канстытуцыі выказаліся 77,4 працэнта грамадзян, за альтэрнатыўны варыянт Вярхоўнага Савета — 6,7. 90 працэнтаў удзельнікаў плебісцыту салідарныя з Прэзідэнтам аб пераносе Дня незалежнасці на 3 ліпеня. Толькі 13 працэнтаў выказаліся за свабодную, без абмежаванняў, куплю-продаж зямлі і 15 — за адмену смяротнай кары. Пераважная большасць грамадзян не падтрымала пытанні, ініцыіраваныя дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Толькі 22,3 працэнта лічаць неабходным, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак. На карысць таго, каб фінансаванне ўсіх галін улады ажыццяўлялася галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту, выказаліся 27 працэнтаў выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у плебісцыце.

Адначасова з галасаваннем па пытаннях рэферэндуму ў 9 выбарчых акругах Брэстчыны праходзілі выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Толькі ў дзвюх выбраны новыя парламентарыі. Гэта дырэктар сярэдняй школы № 30 горада Брэста Аляксандр Працэвіч, якога вылучыў працоўны калектыў па Брэсцкай-Паўднёвай выбарчай акрузе № 6, і яго калега з Пінска Юрый Троцкі, які балаціраваўся па Пінскай-Паўночнай выбарчай акрузе № 31 ад партыі камуністаў. Яшчэ ў дзвюх акругах павінен адбыцца другі тур галасавання. А ў астатніх пяці ў спісы былі ўнесены толькі па два кандыдаты, кожны з якіх не набраў неабходнай у адпаведнасці з законам колькасці галасоў.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

**ВІЦЕБСК**

Самая паўночная вобласць позна прачынаецца. Гэтым, відаць, і тлумачылася тое, што галасаванне на Віцебшчыне праходзіла раніцай 24 лістапада не вельмі актыўна. З улікам тых, хто прымаў удзел у галасаванні датэрмінова, а гэта 17,1 працэнта выбаршчыкаў, да 10 гадзін толькі крыху больш за 23 працэнты з унесеных у спісы жыхароў вобласці атрымалі бюлетэні. Аднак у сярэдзіне дня на ўсіх 1032 участках пачалося ажыўленне, а на многіх з іх адбыліся канцэрты мастацкай самадзейнасці.

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА старшыня Віцебскай абласной выбарчай камісіі Аляксандр Купцоў, паводле папярэдніх даных, у галасаванні па пытаннях рэферэндуму прынялі ўдзел 86,3 працэнта выбаршчыкаў. Большасць тых, хто атрымалі бюлетэні, выказаліся за Канстытуцыю, прапанаваную Прэзідэнтам рэспублікі, — 74,7 працэнта, за святкаванне Дня незалежнасці краіны ў дзень яе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў — 90,7 працэнта, і 84,3 працэнта лічаць адмену смяротнай кары немагчымай. Ініцыятывы, вынесеныя на рэфендэндум Вярхоўным Саветам, падтрымкі не атрымалі. Так, за варыянт Канстытуцыі, прапанаваны фракцыямі камуністаў і аграрыяў, прагаласавала ўсяго 6,3 працэнта.

У 21 раёне Віцебшчыны актыўнасць выбаршчыкаў перавысіла 90 працэнтаў. А Сенненскі можа пахваліцца лічбай 98 працэнтаў. Не засталіся абыякавымі да важнай палітычнай падзеі буйныя прамысловыя цэнтры, як гэта здарылася пры выбарах пасланцоў у парламент, калі жыхары шасці акруг у выніку двух тураў галасавання так і не выбралі сваіх прадстаўнікоў у вышэйшы заканадаўчы орган. Характэрна, што і пры цяперашняй актыўнасці выбаршчыкаў у першым туры дадатковых паўторных выбараў у Вярхоўны Савет, што праводзіўся ў гэтых акругах разам з рэферэндумам, ні адзін з прэтэндэнтаў, а ў пераважнай большасці гэта былі прадстаўнікі палітычных партый, не набраў неабходнай для выбрання колькасці галасоў.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

**ГРОДНА**

24 лістапада амаль адначасова з пачаткам галасавання на рэферэндуме і выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў абласным цэнтры пайшоў мокры снег. Аднак нечаканая рэзкая перамена надвор'я не здольна была паўплываць на клімат палітычны. Беларускі народ, правільней сказаць — большая яго частка працягвала змагацца за сваю лепшую долю, пакідаючы «за» альбо «супраць» у бюлетэнях.

Праўда, нягледзячы на шматлікія заявы аб тым, што людзі, маўляў, самі ва ўсім разбяруцца, зрабіць выбар цалкам самастойна, выключна ўласным розумам ім чамусьці дзе-нідзе не даверылі. У прыватнасці, на першых старонках некаторых мясцовых газет давялося ўбачыць узор бюлетэня, у якім наглядна паказана, што трэба закрэсліць, прыйшоўшы волевыяўляцца.

Дарэчы, падобная «інструкцыя» з такімі ж выкрэсліваннямі, што і ў газетах, знаходзілася і ў кабіне на ўчастку № 32, дзе галасаваў аўтар гэтых радкоў. Хто ж гэта так пра мяне «паклапаціўся»? Невядома.

На ўчастку № 31 папера з аналагічнымі тлумачэннямі ляжала на стале, а на ўчастку № 29 яна абмяркоўвалася некалькімі выбаршчыкамі перад уваходам у кабіну. Уся гэта «растлумачальная работа», відавочна, была накіравана на тое, каб пэўным чынам паўплываць на волевыяўленне людзей, многім з якіх (мяркуючы па шматлікіх тэлефонных званках у абласную камісію па правядзенню рэферэндуму) было цяжка разабрацца, што трэба закрэсліць у бюлетэні, каб дакладна выказаць сваю пазіцыю.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## *Паважаныя чытачы газеты «Звязда»!*

Працягваецца падпіска на 1997 год, год, у якім мы разам з вамі адзначым 80-годдзе старэйшай беларускай газеты. У сённяшняй складанай сітуацыі, вядома, цяжка знайсці лішнія грошы на падпіску, але, паверце, «Звязда» не будзе лішняй у вашым доме. Мы даём вам галоўнае — інфармацыю.

Падпіску можна аформіць на паўгода (тады, праслаўшы спецыяльны купон, вы зможаце стаць удзельнікам латарэі, галоўны прыз якой — конь з вупражжу). Кошт падпіскі на першае паўгоддзе — **83.400 рублёў.**

Падпіску можна аформіць і на тры месяцы **(41.700 рублёў).** *Удзельнікі латарэі могуць выйграць тавары народнага спажывання, сярод якіх электраплуг, веласіпеды, тэлевізары, пральныя машыны, фотаапараты, люстры і г.д.*

Нагадваем, што **спецыяльны конкурс праводзіцца і для паштальёнаў,** для якіх таксама ўстаноўлены каштоўныя прызы: тэлевізар, пральная машына «Мара», веласіпед, а таксама бясплатныя пуцёўкі для аздараўлення і адпачынку дзяцей за мяжой. Падрабязна аб гэтым вы зможаце прачытаць у нумары за 15 лістапада.

Будзем разам!

# ГАЛАСАВАННЕ ПРАЙШЛО СПАКОЙНА І АРГАНІЗАВАНА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Што яшчэ кідалася ў вочы на выбарчых участках? Паўсюдна бюлетэні запаўняліся не толькі ў кабінах, але і ў зале. А на ўчастку № 25 адзін з членаў камісіі прама ўказваў чалавеку, дзе і што трэба выкрэсліваць у бюлетэні. Усе вышэйпамянёныя «дробязі» пратакольна зафіксаваны, аднак ці будзе на іх нейкая рэакцыя?

А цяпер — пра вынікі галасавання. Паводле афіцыяльных, але папярэдніх даных, у рэферэндуме ўдзельнічала 86 працэнтаў жыхароў Гродзеншчыны, якія мелі такое права. За прэзідэнцкія змяненні ў Канстытуцыю выказаліся 70,6 працэнта выбаршчыкаў ад іх спісачнага саставу, супраць — 10,2 працэнта. За канстытуцыйную рэформу, ініцыіраваную дэпутацкімі фракцыямі аграрыяў і камуністаў у Вярхоўным Савеце, прагаласавала 8,5 працэнта выбаршчыкаў, супраць — 71,7 працэнта. Адпаведна 31 і 32,4 працэнта людзей, якія ўдзельнічалі ў рэферэндуме (пры 66,7 і 65,3 працэнта «супраць»), падтрымалі другое і трэцяе пытанні парламента. Затое «дабро» было дадзена пераносу Дня незалежнасці на іншую дату (87,1 працэнта галасоў). 80,3 працэнта ўдзельнікаў плебісцыту не падтрымлівае адмену смяротнага пакарання і 77,5 працэнта выказаліся супраць па зямельнаму пытанню.

Што датычыць выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета, дык яны адбыліся на Гродзеншчыне ў васьмі акругах. Папярэднія даныя выглядаюць так. У Смаргоні 41,4 працэнта галасоў набрала беспрацоўная, член БСДГ М. Вештарт. Яе саапернікам у другім туры будзе прадпрымальнік, член БНФ А. Дзергачоў. У Лідзе спрэчку за дэпутацкі мандат працягваюць інжынер будтрэста № 19, член ПКБ П. Ярошка і прадстаўнік БНФ, карэспандэнт газеты «Пагоня» С. Суднік. Астатнія шэсць выбарчых агруг размешчаны ў абласным цэнтры. Тут таксама з першай спробы дэпутатаў не выбралі. У другі тур выйшлі В. Абуховіч (ПКБ) і Я. Кармільчык (Грамадзянская партыя), М. Патрэба (БСДГ) і М. Салянік (Аграрная партыя), беспартыйны А. Іваноў і А. Мароз (Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці). Вынікі галасавання яшчэ па трох выбарчых акругах на момант, калі гэтыя радкі перадаваліся ў рэдакцыю, карэспандэнту «Звязды» не былі вядомы.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# КІРАЎНІК ПАРЛАМЕНТА АБВІНАВАЦІЎ ВЫКАНАЎЧУЮ ЎЛАДУ

«Уся адказнасць за новае абвастрэнне сітуацыі ў Беларусі ляжыць на выканаўчай уладзе». Аб гэтым заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, які прыйшоў галасаваць 24 лістапада каля 12 гадзін на 69-ы выбарчы ўчастак, размешчаны ў мінскай сярэдняй школе № 209.

Коратка адказваючы на пытанні нешматлікіх журналістаў аб напружанні ў грамадстве, якое выклікана процістаяннем галін улады, ён адзначыў, што Вярхоўны Савет актыўна шукае шляхі вырашэння канфлікту. Паводле яго слоў, цяпер вядуцца кансультацыі з расійскім бокам, з парламентарыямі Украіны і Польшчы, з міжнароднымі арганізацыямі, у прыватнасці, з прадстаўнікамі Еўрапарламента.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

# ІНШАДУМЦЫ

Сваю прэс-канферэнцыю дало і кіраўніцтва Вярхоўнага Савета. Спікер парламента Сямён Шарэцкі назваў некалькі відавочных парушэнняў Закона «Аб рэферэндуме (народным галасаванні) у Рэспубліцы Беларусь», якія, на яго думку, даюць падставы сумнявацца ў легітымнасці рэферэндуму. Гэта, на думку Шарэцкага, няведанне Цэнтрвыбаркомам колькасці надрукаваных бюлетэняў, крыніц фінансавання мерапрыемства, адсутнасць роўных магчымасцей для агітацыі.

Выклікае сумненні ў С. Шарэцкага і такі факт, што колькасць галасаваўшых паміж 18 і 22 гадзінамі склала 26 працэнтаў ад прыняўшых удзел у галасаванні, хоць падчас майскага рэферэндуму, калі на вуліцы светла і суха, яна складала ў лепшым выпадку 7 працэнтаў.

Сямён Шарэцкі заявіў, што Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка наўрад ці здолее сабраць 2/3 галасоў парламентарыяў для таго, каб з іх удзелам сфарміраваць двухпалатны парламент. На думку спікера, Вярхоўны Савет можа разлічваць на падтрымку сваёй пазіцыі сусветнай супольнасцю. С. Шарэцкі не выключае і варыянта, калі яму давядзецца падаць у адстаўку.

**Таццяна КАЛІНОЎСКАЯ.**

# ЛІТОЎСКІЯ БЕЛАРУСЫ ПАДТРЫМАЛІ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКУ

У рэферэндуме прыняло ўдзел 51,06 працэнта беларускіх грамадзян, якія пражываюць у Літве. 81 працэнт выбаршчыкаў падтрымалі Аляксандра Лукашэнку, нягледзячы на тое, што літоўскае тэлебачанне, радыё і газеты ў цэлым займалі антыпрэзідэнцкія пазіцыі і падтрымлівалі Вярхоўны Савет Беларусі.

**БЕЛТА.**

# АПАЗІЦЫЯ ВЫНІКІ РЭФЕРЭНДУМУ НЕ ПРЫЗНАЕ

25 лістапада Грамадская камісія па кантролю за ходам галасавання на рэферэндуме прыняла заяву, у якой яна не прызнае вынікі прайшоўшага галасавання законнымі. Зафіксаваны тысячы парушэнняў падчас датэрміновага галасавання і паступаюць новыя і новыя пратаколы, з якіх вынікае, што галасаванне не было добраахвотным, свабодным і тайным. На шмат якія ўчасткі назіральнікі не дапускаліся, не выконваліся распараджэнні ЦВК і пастанова парламента аб тлумачэнні закона аб рэферэндуме, ажыццяўляўся кантроль за волевыяўленнем. Акрамя таго, члены грамадскай камісіі зазначаюць, што Цэнтрвыбарком не правамоцны прызнаваць вынікі рэферэндуму, бо не мае патрэбнага кворуму і пазбаўлены законна абранага старшыні.

На прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры БНФ в. а. старшыні гэтай арганізацыі Лявон Баршчэўскі заявіў, што БНФ і іншыя дэмакратычныя арганізацыі не прызнаюць вынікаў гэтага рэферэндуму, таму што аб яго незаконнасці і парушэннях сведчаць тысячы складзеных пратаколаў. Яго намеснік В. Вячорка заявіў, што міжнародная дэмакратычная супольнасць не прызнае гэты рэферэндум і яго вынікі законнымі ад пачатку да канца, што міжнародныя арганізацыі далі яму адназначна негатыўную ацэнку, і гэта дрэнна адаб'ецца на становішчы Беларусі ў цывілізаваным свеце. БНФ жа будзе працягваць сваю барацьбу за дэмакратыю, незалежнасць і законнасць і рыхтуе адпаведныя акцыі, зазначалася на прэс-канферэнцыі ў БНФ.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# МАЛАДЫЯ ЎКРАІНЦЫ ЗНОЎ У ПОЛІ ЗРОКУ БЕЛАРУСКАЙ МІЛІЦЫІ

За распаўсюджванне правакацыйных лістовак вечарам 23 лістапада ў Мінску былі затрыманы чацвёра маладых грамадзян Украіны. Здарылася гэта на станцыі метро «Акадэмія навук». Лістоўкі, надрукаваныя без выхадных даных, мелі яўна правакацыйны характар.

Некаторыя з затрыманых прад'явілі камандзіровачныя пасведчанні, падпісаныя кіраўніком украінскага «Руху» Вячаславам Чарнавілам. Паводле слоў затрыманых, лістоўкі яны ўзялі ва ўправе Беларускага народнага фронту.

На двух украінцаў — дваццацігадовую дзяўчыну і хлопца, які на год старэйшы за яе, — былі складзены адміністрацыйныя пратаколы «за распаўсюджванне друкаваных выданняў, якія не маюць выхадных даных».

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў УУС Мінгарвыканкома, пасля складання пратаколаў усе парушальнікі былі адпушчаны, і ім цяпер прыйдзецца заплаціць штраф, сума якога будзе вядома ў бліжэйшы час.

**БЕЛТА.**

# ДЭПУТАТЫ ДУМАЮЦЬ АБ ФАРМІРАВАННІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

**Абмеркаванню вынікаў рэферэндуму і грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі была прысвечана сустрэча часткі дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якая адбылася 25 лістапада ў будынку Беларускага саюза моладзі.**

Каля 100 дэпутатаў заслухалі выступленне старшыні Цэнтрвыбаркома Лідзіі Ярмошынай, якая пазнаёміла народных выбраннікаў з вынікамі рэферэндуму. Пасля гэтага па ініцыятыве дэпутата Івана Пашкевіча была абмеркавана і прынята заява, у якой парламентарыі заклікалі сваіх калег адклікаць подпісы з Канстытуцыйнага суда, а таксама прызналі рэферэндум цалкам законным і абгрунтаваным.

На сустрэчы абмяркоўваліся таксама стратэгія і тактыка далейшых дзеянняў дэпутацкага корпуса. Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, які выступіў перад парламентарыямі, заклікаў дэпутатаў падрыхтавацца да сустрэчы з Прэзідэнтам, на якой плануецца абмеркаваць механізм фарміравання Палаты прадстаўнікоў. Міхаіл Мясніковіч адзначыў, што дэпутаты, выбраныя 24 лістапада, не могуць, у адпаведнасці з артыкулам 143 Канстытуцыі, увайсці ў Палату прадстаўнікоў, а таму варта задумацца над мэтазгоднасцю другога тура парламенцкіх выбараў.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

# ПАВІНШАВАЛІ З ЮБІЛЕЕМ КАРЫФЕЯ БЕЛАРУСКАГА ХАРАВОГА МАСТАЦТВА

У суботу, 23 лістапада, у Беларускай дзяржаўнай Філармоніі адбыўся вечар з нагоды 75-гадовага юбілею славутага музыканта, харавога дырыжора Віктара Роўды.

З усёй рэспублікі сабраліся на гэты вечар шматлікія вучні Віктара Уладзіміравіча — усе тыя, хто сам спявае ў хоры ці кіруе калектывам. Больш за 600 дырыжораў-харавікоў «прайшлі праз рукі» прафесара Роўды ў акадэміі музыкі, дзе ён працуе некалькі дзесяткаў гадоў.

У сапраўдны бенефіс маэстра Роўды ператварыўся вечар з нагоды юбілею.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# АДНЫМ СКАЗАМ

Асноўнымі **гандлёвымі партнёрамі** Беларусі ў першыя дзевяць месяцаў гэтага года заставаліся Расія (52,7 працэнта ад усяго аб'ёму тавараабароту), Украіна (10,1 працэнта), Германія (6,1 працэнта), Польшча (4,4), Літва (2,5), Латвія (2,4) і ЗША (1,7 працэнта).

Падрыхтавана да выпуску новая гарэлка **«Адзінства»:** пад адзінай гандлёвай маркай яна будзе выпускацца трыма заводамі — мінскім і маскоўскім «Крышталем» і Кіеўскім ВА лікёра-гарэлачнай прамысловасці.

У рэспубліцы бясплатнымі і льготнымі лекамі з 10,5 мільёна жыхароў карыстаюцца **5,3 мільёна чалавек.**

За 10 месяцаў гэтага года ў рэспубліцы ўчынена **676 рабаўніцтваў і 444 разбойныя напады** на кватэры.

*ХРОНІКА*

# ПАГАДНЕННЕ ПАМІЖ ЛУКАШЭНКАМ І ШАРЭЦКІМ САРВАНА,

## але пакуль ніхто не аб'явіў аб дэзавуіраванні свайго подпісу пад ім

Сітуацыя ў Беларусі напярэдадні рэферэндуму мянялася імкліва. Процілеглыя сілы перагрупоўваліся па некалькі разоў на дзень. У падзеі актыўна ўмешвалася Масква ў асобе ўсіх вышэйшых службовых асоб Расійскай Федэрацыі, але і яны не змаглі прымірыць Аляксандра Лукашэнку з яго апанентамі.

Дасягнутае пасля бяссоннай ночы з 21 на 22 лістапада пагадненне аб канстытуцыйнай рэформе рэальна праіснавала ўсяго толькі адзін дзень, паколькі так і не было адобрана парламентам. Прычым адбылося гэта, як ні дзіўна, па віне прапрэзідэнцкай фракцыі «Згода» ў Вярхоўным Савеце. Як прызнаў сам Прэзідэнт, паводле гэтага пагаднення ён атрымліваў «нармальныя» ўмовы для правядзення канстытуцыйнай рэформы: ён атрымліваў большасць у Канстытуцыйным сходзе і да таго ж меў магчымасць легітымна ўкараніць свой праект Асноўнага закона. Такім чынам, уся цяжкая барацьба апазіцыі, паводле выступленняў многіх дэпутатаў у Вярхоўным Савеце 22 лістапада, зводзілася на нішто. Парламент не толькі здаваў свае пазіцыі, адмаўляючыся ад імпічменту, але і прызнаваў законным ход рэферэндуму, які дэпутаты жорстка крытыкавалі за парушэнні закона і Канстытуцыі. Як вядома, Віктар Ганчар назваў усё гэта «прававым вар'яцтвам». Натуральна, што радыкальна настроеныя дэпутаты адразу абвінавацілі Сямёна Шарэцкага ў здрадзе і патуранні беззаконнасці. Але самае цікавае, што не яны, а дэпутаты са «Згоды» сарвалі галасаванне па пастанове Вярхоўнага Савета, што датычылася падпісанага пагаднення. Калі пастанова, якая прадугледжвае падтрымку пагаднення і даручэнне дзвюм камісіям Вярхоўнага Савета падрыхтаваць праект закона аб Канстытуцыйным сходзе, была адобрана па ўсіх пунктах і пастаўлена на галасаванне ў цэлым, лідэр фракцыі «Згода» У. Канаплёў па сотавым тэлефоне звязаўся з Адміністрацыяй Прэзідэнта і, падбегшы з гэтым тэлефонам ля вуха да мікрафона, запатрабаваў ад «сваіх дэпутатаў» не галасаваць. Згоднікі і не прагаласавалі. Прыкладна а 9 гадзіне вечара ў парламент прыбыў сам А. Лукашэнка і выказаў сваю пазіцыю. Ён зазначыў, што яму не падыходзіць той праект пастановы, які меў намер прыняць парламент. І звярнуўся да дэпутатаў з просьбай адмовіцца ад намеру падрыхтаваць асобны закон аб Канстытуцыйным сходзе, прадугледжаны ў падпісаным пагадненні, а толькі надаць гэтаму пагадненню сілу канстытуцыйнага закона. Тут адбылася скандальная сцэна. Сямён Шарэцкі абвінаваціў Прэзідэнта ў хлусні і заявіў, што ён падобнага не абяцаў. Выкананне Канстытуцыі і законаў не можа быць прадметам для кампрамісу — такая была пазіцыя большасці парламента. У выніку Прэзідэнт паехаў ні з чым і пасяджэнне Вярхоўнага Савета, якое зацягнулася за 9-ю гадзіну вечара, было спынена. Да аўторка.

Трэці ўдзельнік пагаднення, Канстытуцыйны суд, атрымаўшы ад Прэзідэнта ўказанне аб адмене ягоных указаў ад 5 і 7 лістапада прыняў рашэнне аб спыненні справы, якая была ўзбуджана раней па гэтых указах. Пытанне аб спыненні працэдуры імпічменту вырашана не было. Гэтая праблема разглядалася 23 лістапада на нарадзе ў Канстытуцыйным судзе, думкі суддзяў падзяліліся прыблізна пароўну, прычым Валерый Ціхіня выступаў за спыненне справы аб імпічменце. Была верагоднасць таго, што гэтая нарада перарасце ў пасяджэнне Канстытуцыйнага суда, які адменіць справу аб імпічменце. Але галасоў для гэтага не хапіла. Канстытуцыйны суд таксама перанёс гэту справу на аўторак. І, паводле меркаванняў дэпутата А. Лябедзькі, які прысутнічаў на гэтай нарадзе, калі ў аўторак і будзе прынята нейкае рашэнне, то з перавагай у 1-2 галасы. Акрамя таго, выявілася, што частка дэпутатаў пад націскам адклікала свае подпісы з Канстытуцыйнага суда, іншыя адважыліся кампенсаваць іх сваімі. Сямён Шарэцкі накіраваў свой подпіс у Канстытуцыйны суд, а таксама накіраваў зварот і папрасіў не разглядаць яго папярэднюю просьбу аб адмене працэдуры імпічменту.

У рэшце рэшт абодва бакі (Шарэцкі і Лукашэнка) абвінавацілі адзін аднаго ў зрыве пагаднення, але ніхто пакуль не заявіў аб тым, што ён дэзавуіруе свой подпіс пад ім. Прычына такой пазіцыі, хутчэй за ўсё, — нежаданне беларускіх лідэраў паставіць у няёмкае становішча расійскіх кіраўнікоў, якія цэлую ноч дабіваліся такога пагаднення.

Сямён Шарэцкі яшчэ раз пацвердзіў, што расцэньвае дзеянні А. Лукашэнкі як захоп улады неканстытуцыйным шляхам. «Пройдзе час, і Лукашэнка з яго памагатымі будуць за гэта адказваць», — заявіў Сямён Шарэцкі на прэс-канферэнцыі 23 лістапада. А. Лукашэнка, выступаючы ў той жа дзень па Беларускім тэлебачанні, абвінаваціў дэпутатаў у русафобіі, распальванні нацыянальнай варожасці і заявіў, што пытанне аб Канстытуцыі на рэферэндуме ён лічыць абавязковым. 23 лістапада ім быў падпісаны адпаведны ўказ.

Тым часам 23 лістапада заканчвалася датэрміновае галасаванне. Карэспандэнт «Звязды» наведаў некалькі ўчасткаў у Мінску. На адным з іх, участку № 1 па вуліцы Кірава, падчас галасавання былі заўважаны агітацыйныя матэрыялы за прэзідэнцкі праект, а таксама ўзор бюлетэня з адпаведна закрэсленымі «за» і «супраць». Старшыня ўчастковай камісіі заявіла, што гэтыя матэрыялы трапілі на ўчастак выпадкова, іх нехта прынёс і падкінуў. На іншым жа ўчастку (№ 6 па вуліцы Кастрычніцкай) таксама былі знойдзены гэткія ж матэрыялы, але старшыня камісіі не збіраўся апраўдвацца, а заявіў, што гэта проста ўзоры для галасавання... У Цэнтрвыбарком, які знаходзіцца побач, трапіць не ўдалося: ён быў пад аховай 6-7 супрацоўнікаў у міліцэйскай форме, якія не прапускалі туды ні журналістаў, ні міжнародных назіральнікаў. Пакой № 107, які быў адведзены для гэтай катэгорыі зацікаўленых, у суботу быў зачынены.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

* * *

По неафіцыйных дадзеных, 24 лістапада дэпутатамі Вярхоўнага Савета абраныя Генадзь Грушавы, член Беларускай хрысціянска- дэмакратычнай партыі, і Уладзімір Тарасаў, член Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

**Сяргей СНЕГІН, Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

*ВАКОЛ СПОРТУ*

# НЕХТА СЫХОДЗІЦЬ — НЕХТА ПРЫХОДЗІЦЬ. ЖЫЦЦЁ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Палітыка палітыкай, а спорт спортам. Таму нічога дзіўнага няма, што, нягледзячы на апошнія палітычныя перыпетыі, спартыўныя — не менш інтрыгуючыя.**

Як правіла, заканчэнне года дае пажытак журналістам у сувязі са зменай «месца прапіскі» многіх спартсменаў. І хоць Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, выступаючы на нядаўнім спартыўным форуме, кінуў у масы лозунг: «Вярнуць усіх на Радзіму», ад'езд беларускіх спартсменаў і спецыялістаў працягваецца. Едуць працаваць па кантракту, мяняюць грамадзянства, што, на мой погляд, звычайная з'ява. Спартыўны век кароткі, а жыць, працаваць, карміць сям'ю пры ўсім патрыятызме неабходна. Вось і нядаўна галоўны трэнер беларускай зборнай па мастацкай гімнастыцы Галіна Крыленка адправілася ў нямецкі горад Шміндэн трэніраваць мясцовы клуб. Калі дабавіць, што збіраецца ўвогуле пакінуць спорт і 5-разовая чэмпіёнка свету па мастацкай гімнастыцы Ларыса Лук'яненка, то можна сабе ўявіць, як нялёгка нам прыйдзецца.

Паводле папярэдніх звестак, у Паўднёвую Амерыку падалася алімпійская чэмпіёнка па плаванню гамяльчанка Алена Рудкоўская (ва ўсякім разе, у тэлефоннай размове з карэспандэнтам «Звязды» маці спартсменкі гэта не аспрэчвала), а напрыканцы мінулага тыдня стала вядома, што падчас знаходжання мінскага гандбольнага клуба СКА ў Германіі тамтэйшы клуб «Хамельн» зрабіў прапанову ўзначаліць іх каманду нашаму славутаму трэнеру Спартаку Пятровічу Міярановічу. Ці дасць ён згоду? Вось у чым пытанне.

Што датычыцца футбольных навін, то тут пакуль што ідзе своеасаблівая «прыкідка». Андрэй Астроўскі з «Дынама-93», здаецца, «палажыў вока» на Расію (альбо Расія «палажыла вока» на Андрэя), ды і іншыя ігракі, пакуль перапынак, «спрабуюць на зуб» прапануемыя ім кантракты. Зрэшты, перапынак — паняцце адноснае, бо ігракі пастаянна трэніруюцца, гуляюць, а ўжо 25 студзеня ў Маскве беларускі клуб — мазырскі МВКЦ — возьме ўдзел у традыцыйным V Міжнародным кубку чэмпіёнаў Садружнасці. Вядома, дарэчы, што ў адной групе з мазыранамі будуць рыжская «Сконта», чэмпіён Туркменістана і зборная клубаў Расіі, якая правядзе, скажам так, трэніровачныя гульні «за кампанію». Будзем спадзявацца, што нашы футбалісты дакажуць расіянам: клуб з беларускага раённага цэнтра — не самая дрэнная кампанія.

**Алесь СІВЫ.**

# ЖЫЦЦЁ

*ЗМЕНА ВЕКТАРА*

## МАЯТНІК ХІСНУЎСЯ ЎЛЕВА

**Таксістаў, як і бацькоў, не выбіраюць. Асабліва зараз. Хто першы ў калоне, да таго і сеў. Могуць давезці куды заўгодна. Я аднойчы, прыгадаўшы адзін гістарычны анекдот, сказаў: «Да Нью-Йорка, шэф!» Шэф уважліва паглядзеў на мяне і зусім сур'ёзна адказаў: «Двайны тарыф».**

**Дарэчы, пра анекдот. Карацей, ідзе замежны фільм недзе ў закрытай кіназале. Перакладчык вымушаны пераводзіць «з ліста». Па ходу дзеяння фільма героі аказваюцца то ў Парыжы, то ў Нью-Йорку. Перакладчык дысцыплінавана пераводзіць адпаведныя цітры: «Парыж... Нью-Йорк...» Нарэшце яму гэта надакучвае і ён замаўкае. Раптам чуецца голас з каўказкім акцэнтам: «Дарагой, пачэму малчыш? Какая станцыя слэдующая?» Збянтэжаны перакладчык адказвае: «Нью-Йорк...» Голас: «Стоп. Я выхажу».**

**Мне здаецца, анекдот актуальны і мае непасрэднае дачыненне да тэмы артыкула...**

❶

Гэтага таксіста мы назавём Іван. Можна і Пятро, але якая ў прынцыпе розніца? Яму сорак, пачаў лысець. Мы з ім прыкладна аднаго пакалення, хоць у мяне на галаве расліннасці пакуль хапае. Розніца ў гадах — ну, можа, 7-8 гадоў. Думаю, прыналежнасць да таго ці іншага пакалення вызначаецца ўсё ж не ўзростам. Я сустракаў равеснікаў сярод 70-гадовых, а сярод равеснікаў — 70-гадовых. Усё залежыць ад светапогляду.

Паслухаўшы Івана, а ён аказаўся вельмі камунікабельным, я зразумеў: наш чалавек.

Івана збіла з толку перабудова. Ён яе ўспрыняў занадта літаральна. Ну, вы памятаеце гэтую шалёную гонку за «тоўстымі» часопісамі, артыкулы Шмялёва, «Огонек», бітвы ў Вярхоўным Савеце, першыя кааператывы і г. д. Свежы, скажам так, вецер, перамен... Адным словам, Івана панесла гэтым ветрам.

Ён прафесіянальны вадзіцель. У 1989 годзе пачаў працаваць у кааператывах. Яму тады здавалася, што сам гэты факт адразу зробіць яго шчаслівым і багатым. Праз нейкі час высветлілася, што багатымі і шчаслівымі становяцца іншыя, а Іван працягвае трымацца за абаранак. Не, з голаду не паміраў, аднак асаблівых прыбыткаў не было таксама. Натуральна, наступіла пэўнае расчараванне. Жыццё неяк не ўпісвалася ў прамовы дэпутатаў міжрэгіянальнай дэпутацкай групы. У выніку Іван нейкі час працаваў на дзяржаву.

Але тая плаціла ўсё менш, а патрэбы раслі. Дзесьці гады з тры назад Івану пашчасціла ўладкавацца ў адно сумеснае прадпрыемства, звязанае з італьянцамі. Іван вазіў дырэктара з нашага боку. Ён мне падрабязна распавёў пра гэты перыяд свайго жыцця.

Работка аказалася клапатлівая і даволі нудная. Сядзі і чакай боса — асноўны абавязак. Добра, калі днём. Часта бос з прыбліжанымі асобамі і маладымі раскаванымі кабетамі завальваўся да поўначы ў рэстаран. Прагульвалі, сведчыць Іван, па 300—400 долараў за ноч. Увесь гэты час Іван дысцыплінавана чакаў у шыкоўнай іншамарцы. Ад гэтага, праўда, чаканне не станавілася больш вясёлым. Плацілі яму каля 2 мільёнаў. Іван мог параўноўваць: 400 долараў за ноч і 2 мільёны рублёў у месяц. Сумнае атрымлівалася параўнанне...

А потым прыйшло гора: Іван, не па сваёй віне, пабіў машыну. Гэта, як вы зможаце зразумець потым, было сапраўды гора. Дырэктар проста загадаў: аднаўляеш машыну і прадаеш яе, грошы — фірме, табе — працоўную кніжку. Зразумела, ні аб якой зарплаце гаворкі не ішло.

Цэлы год сям'я Івана — жонка і двое дзяцей — жыла на бульбе і макароне. Пры гэтым Іван быў вымушаны купляць запчасткі, рамантаваць машыну за свой кошт. Бог ведае, што з імі было б, калі б не даўні сябар Івана, з якім яны некалі займаліся ўсходнімі адзінаборствамі. Кожны месяц гэты чалавек даваў Івану адзін мільён са сваёй не сказаць каб вялікай зарплаты. Проста так. Без відаў на далейшую ўдзячнасць. Так сям'я Івана выжыла.

Машыну ён нарэшце адрамантаваў і прадаў за тую ж цану, за якую набыла яе фірма. Грошы аддаў і атрымаў працоўную кніжку. І ўладкаваўся таксістам. І вось вязе мяне і расказвае. У прыватнае прадпрыемства Іван зараз не хоча, колькі б яму там ні прапанавалі. Хоць бы тыя ж 400 долараў...

Падчас работы ў СП яму даводзілася часта вазіць італьянцаў. Праз перакладчыка гаварылі «за жыццё». Італьянцы, кажа Іван, ахвотна расказвалі, як жывуць. А жывуць цяжка. Шмат працуюць, а атрымліваюць, кажа, не па працы. Для гаспадара яны — што смецце. Іван слухаў, здзіўляўся і пытаў: «Дык у вас жа там рай, як зразумець?» Рай, адказвалі італьянцы, там, дзе ў правінцыі ўладу маюць камуністы. Вось там людзі жывуць значна лепш, чым па астатняй Італіі. Там і падаткі ніжэйшыя, і льгот больш, і жыццё таннейшае. Вось такім чынам.

Можа, мы рана выгналі камуністаў? Можа, вярнуць іх, няхай дабудоўваюць свой камунізм?

Напрыклад, у Балгарыі вярнулі. Адразу з'явіліся чэргі за хлебам, а знакамітыя балгарскія памідоры зніклі ўвогуле. Верагодна, гэта такая адметная асаблівасць у камуністаў... Але як быць з Іванам?

Ён, гэта відавочна, чалавек дэмакратычных поглядаў. Ён вось вырашыў, што рынак — гэта, безумоўна, добра, і толькі праз яго мы зможам выбрацца з багны. Зараз Іван так не думае. А думае якраз наадварот. І зноў памыляецца. Бо сапраўдным рынкам у нас ніколі і не пахла. І не пахне. І не можа пахнуць. Праўда, аб гэтым лепш у канцы...

❷

Дзмітрый Д. загінуў у маі гэтага года. Яго не забілі, ён не трапіў пад машыну і не выпаў з 10-га паверха. Дзмітрый зарабляў грошы для сваёй сям'і, становішча якой было адчайным.

Фірма, дзе ён працаваў, не плаціла грошы некалькі месяцаў, грошай на рахунку не было. Гэта з аднаго боку. З другога — жонка з маленькай зарплатай і двое дзяцей. Калі да Дзмітрыя прыйшоў сусед з прапановай падзарабіць, Дзмітрый не вагаўся. Падпісаў дагавор падраду (ёсць такая папера) і стаў рамантаваць у саставе МП школу.

Пад'ёмнік, на які яго паставілі працаваць, аказаўся без процівагі, перакуліўся і на гэтым свеце стала на двое сірот болей.

Потым высветлілася, што Дзмітрый не прайшоў абавязковага інструктажу па тэхніцы бяспекі, пад'ёмнік гэты бачыў першы і апошні раз у жыцці, што ўвогуле не меў права працаваць на ім. Але гэта было потым.

Справа ў тым, што фірме выгадныя такія, як Дзмітрый. Ім можна менш заплаціць і яны не будуць задаваць лішніх пытанняў і «выступаць». Загінуў? А тут нашай віны няма. Чытайце Грамадзянскі кодэкс РБ, арт. 343, дзе сказана: «... падрадчык абавязуецца на сваю рызыку выканаць пэўную работу...» Звярніце ўвагу: на сваю. Вось Дзмітрый і выканаў.

Летась у сталіцы зафіксавана 56 цяжкіх выпадкаў на прадпрыемствах недзяржаўнай формы ўласнасці, 5 чалавек загінулі, 9 атрымалі цяжкія траўмы і сталі інвалідамі. Гэта толькі тое, што стала вядома. Звычайная практыка: з чалавекам дамаўляюцца: мы табе заплацім, але маўчы. Большасць маўчаць, у фінансавых адносінах гэта больш выгадна.

Напрыклад, 29-гадовы Віктар Н., вадзіцель адной транспартнай фірмы, трапіў у сур'ёзную аварыю. Пераломы рук, ног, рэбраў, — жывым застаўся цудам. Быў выгадны заказ, працавалі па 14-15 гадзін у суткі, тэхабслугоўванне было мінімальным і аднойчы не спрацавалі тармазы. Да суда выпадак не дайшоў. З Віктарам «дамовіліся», плацяць бальнічны, выпісалі салідную прэмію і абяцаюць не звальняць. Віктар вельмі задаволены, кажа, што на месцы боса зрабіў бы гэтак жа. Разважаць на тэмы маралі яму перашкаджаюць непрацуючая жонка, трое дзяцей і зарплата ў 1000 долараў. Пра тое, што дзеці маглі застацца без бацькі, ён стараецца не думаць і ўспамінае пра аварыю з гумарам...

Ну, і гэтак далей. Множыць гісторыі няма сэнсу. Адно, што можна зазначыць: на недзяржаўных прадпрыемствах траўматызм у 6 разоў вышэй, чым на дзяржаўных...

❸

Ну і што ў нас атрымалася? Штосьці дзікае. Незразумелае на першы погляд. Таму што на другі — усё больш-менш ясна. Нічога з нічога не бывае. Ногі сённяшняга «рынку» растуць з мінулага. У сэнсе: сучасны дырэктар фірмы ёсць калька з мінулага дырэктара завода. Да гэтага ён мог быць настаўнікам, радавым інжынерам, інструктарам фізкультуры, але калі сёння ён стаў уладальнікам фірмы, то ўсё роўна будзе тым старым дырэктарам завода. Для якога людзі — гэта толькі рабсіла.

Справа ў тым, што чалавек — істота традыцыйная. Ён не можа на роўным месцы ствараць нешта новае, а толькі дзейнічаць у рэчышчы старой традыцыі. Да гэтага варта дадаць нечаканую свабоду дзеянняў. Так-так, свабоду. Дырэктар завода не мог кроку ступіць без пільнага кантролю з боку самых разнастайных інстанцый. Любы няшчасны выпадак шчодра дабаўляў сівізны ў валасы.

Сучасны «фірмач» нічога гэтага не баіцца. Па сутнасці ён бескантрольны і са сваёю «рабсілай» можа рабіць што заўгодна. Пачаць з таго, што адсутнічае сістэма калектыўных дамоўленасцей ці асабістых кантрактаў. Наймаемы загадзя на ўсё згодны. Бо ў патыліцу дыхаюць адзінаццаць канкурэнтаў (паводле некаторых даных, у сталіцы на адно свабоднае месца прэтэндуюць 12 чалавек). Даходзіць да сумна-смешнага: у працоўную кніжку, бывае, робяць такі запіс — «вадзіцель-менеджэр». У афіцыяльнай класіфікацыі прафесій такое не пазначана, а значыць чалавек аўтаматычна губляе год-два-тры працоўнага стажу. Зараз гэта здаецца дробяззю, але некалі прыйдзецца выходзіць на пенсію і гэтых трох гадоў можа не хапіць.

Цікавая рэч: у кожным раёне Мінска налічваецца па некалькі тысяч недзяржаўных прадпрыемстваў, і адрасы з тэлефонамі (дакладныя) ёсць у некалькіх дзесяткаў. Астатняе — «чорная дзірка». Калі фірму ўсё ж «засеклі», то змяніць рэквізіты каштуе 100 долараў.

Прадпрымальнікаў, вядома, зразумець можна: падаткі і гэтак далей. Вымушаны затойвацца, каб не аддаваць увесь прыбытак любімай радзіме. Але што атрымліваецца? Атрымліваецца, што крайнім зноў аказваецца таксіст Іван. Які паверыў у рынак, а цяпер верыць толькі сваёй «Волзе» з шашачкамі, яна прывязе і зарплату, і нешта зверху яе.

Я не ведаю, можа, былі дурні, якія верылі, што калі сумясціць заходнюю мадэль рынку з нашым «сацыялізмам», то можа атрымацца няблага. Гэта было заведама несумяшчальнае. Памятаеце, раней шмат гаварылі пра шведскі, швейцарскі і г. д. сацыялізм? Але там да яго ішлі паступова...

Сёння маятнік зноў хіснуўся ўлева: Іван перасеў на дзяржаўнае таксі. Потым будзе рух управа, далей — зноў улева. Маятнік будзе хістацца, пакуль не знойдзе «залатую сярэдзіну».

Калі гэта магчыма ў прынцыпе...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## закурыць

**Шчыра кажучы, я не з'яўляюся заўзятым курцом, хоць і не скажаш, што зусім адмовіўся ад гэтай шкоднай звычкі. Таму рэдакцыйнае заданне не выклікала ў мяне ўнутранага пратэсту. Тым больш, што курцы — гэта таксама людзі, іх шмат. А значыць пытанне, ці лёгка сёння закурыць, нягледзячы на справядлівыя папярэджанні Міністэрства аховы здароўя, даволі актуальнае.**

Спачатку разбяромся з тытунёвымі вырабамі айчыннай вытворчасці. Здавалася б, ніякіх праблем тут не можа ўзнікнуць, паколькі менавіта ў Гродне размешчана адзіная ў нашай краіне тытунёвая фабрыка. Аднак наведанне шэрага магазінаў завяршылася для мяне нулявым вынікам — гродзенскія цыгарэты адсутнічалі.

Тэлефаную дырэктару тытунёвай фабрыкі Н. Прымшыц: «Што здарылася? Няўжо нічога не выпрабляеце?» Паводле слоў Надзеі Іванаўны, сітуацыя сапраўды вельмі складаная — Нацыянальны банк не дае валюты і фабрыка не можа закупіць за мяжой сыравіну. Таму пагроза спынення вытворчасці даволі рэальная. Тым не менш, пакуль што прадпрыемства працуе ў дзве змены і пастаўкі прадукцыі гандлю ў гэтыя дні не толькі не скараціліся, а нават павялічыліся.

Удакладняю гэту інфармацыю ў намесніка дырэктара Гродзенскага гархарчгандлю Надзеі Данільчык. Паводле яе слоў, 19 лістапада пасля доўгага перапынку з фабрыкі атрымана 150 скрынак цыгарэт, якія будуць размеркаваны па дзесяці магазінах.

Павелічэнне паставак тытунёвых вырабаў пацвердзілі і на гродзенскай базе «Бакалея». 18 лістапада фабрыка ўзяла на сябе дадатковае выдзяленне вобласці 150 мільёнаў штук (10 тысяч скрынак) цыгарэт. Быццам і нямала. Аднак, з іншага боку, прадпрыемства яшчэ не разлічылася па асноўных дагаворах і доўг складае 60 мільёнаў штук.

Цяпер база атрымлівае штодзённа па 300 скрынак тытунёвых вырабаў на вобласць. Гэта амаль удвая больш, чым было звычайна. Спецыялісты базы спадзяюцца, што неўзабаве дэфіцыту гродзенскіх цыгарэт на прылаўках не будзе. Але на аддаленую перспектыву ніхто загадваць не бярэцца. Па-першае, невядома, ці здолее фабрыка вырашыць праблемы з сыравінай. А па-другое, зусім не выключана, што значная частка прадукцыі (цана на якую, у адрозненне ад замежных цыгарэт, што даражэюць разам са скачком долара, не мяняецца ўжо вельмі даўно), трапіць да перакупшчыкаў. Потым, калі ў дзяржгандлі зноў пачнуцца перабоі з цыгарэтамі, можна будзе гэту сітуацыю выгадна выкарыстаць.

Дарэчы, у камерсантак (у асноўным пенсіённага ўзросту), якія штодзённа нясуць вахту ў пэўных месцах абласнога цэнтра, недахвату айчынных цыгарэт амаль не бывае. Здараліся перабоі хіба што тады, калі фабрыка зачынялася на планавы рамонт. У асноўным жа ў прадпрымальных бабулек — парадак: «Калі ласка, сынок, вось табе і «Арбіта», і «Гродна», і «Астра». Цана залежыць ад наяўнасці гэтага тавару ў магазінах. Пуста там — «вуліца» адразу прадае даражэй, чым устаноўлена для гэтых вырабаў дзяржгандлем. Ёсць канкурэнцыя з боку гандлёвых кропак — бабулі трохі скідваюць. Такая магчымасць у іх ёсць, паколькі не сакрэт, што з тытунёвай фабрыкі ўжо даўно і даволі паспяхова крадуць.

Здараюцца з цэнамі і сітуацыі, на першы погляд, парадаксальныя. Напрыклад, 19 лістапада ў магазіне фірмы «Мока» па вуліцы Горкага пасля працяглага перапынку з'явіліся айчынныя цыгарэты. У прыватнасці, «Арбіта» і «Гродна» прадаваліся па 2800 рублёў. А вось на рынку, які размешчаны па-суседску, аналагічны тавар ішоў з рук па... 4 тысячы. Не выключана, што яго скупілі ў той жа краме. А што? У магазінах з гродзенскімі тытунёвымі вырабамі доўгі час была нявыкрутка, людзі прызвычаіліся туды не заглядваць, а адразу ісці да індывідуалаў...

Што ж датычыць больш «казырных» цыгарэт, зробленых за межамі СНД (прынамсі, аб гэтым сцвярджаецца на пачках), дык іх купляць у магазінах і кіёсках, само сабой, нявыгадна. Бо літаральна на кожным кроку вышэйпамянёныя гандляркі прапануюць гэты тавар значна танней. Тое, што ён без акцызнай маркі альбо з «левай» маркіроўкай, курца не хвалюе. А вось для дзяржаўных органаў гэта пытанне вельмі актуальнае, паколькі міма казны «пралятаюць» вялікія грошы. Адсюль і кампаніі «па адлову» нідзе не зарэгістраваных прадпрымальніц, якія час ад часу праводзяцца ў горадзе. Аднак літаральна на заўтра на тым жа самым месцы з'яўляюцца альбо новыя гандляркі, альбо нават тыя, каго толькі ўчора аштрафавалі. Усё гэта нагадвае стральбу па вераб'ях дробнай шрапнеллю.

Сёння ўсім відавочна, што бабулі з цыгарэтамі — гэта самае апошняе звяно ў ланцужку незаконнага бізнесу. А што перад ім? З такім пытаннем карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да начальніка аддзела падатковых расследаванняў дзяржаўнай падатковай інспекцыі па Гродне Аляксандра Ляха. Паводле яго слоў, ужо склалася пэўная сістэма. Скажам, у Гродне рэгіструецца нейкае МП, якое, аднак, не ажыццяўляе ніякай дзейнасці. Тым не менш, гэта прадпрыемства атрымлівае факс ад замежнай фірмы з даручэннем прыняць груз на тэрыторыі Беларусі і размясціць яго на мытным складзе да далейшых указанняў. Усё па закону. Праз нейкі час — другі факс з указаннем накіраваць гэту партыю тытунёвых вырабаў той ці іншай літоўскай альбо латвійскай фірме. Аднак ці сапраўды груз пакідае тэрыторыю нашай краіны?

Аддзел падатковых расследаванняў праверыў дзейнасць шэрага гродзенскіх камерцыйных структур, якія спецыялізаваліся быццам бы на пасрэдніцкіх паслугах па транспарціроўцы з Заходняй Еўропы ў Прыбалтыку за чыста сімвалічнае ўзнагароджанне ў выглядзе 100—120 долараў за кожную аформленую і накіраваную па прызначэнню аўтамашыну. Напрыклад, літоўскай фірме «Велдэпе» гродзенскія пасрэднікі накіравалі тытунёвых вырабаў на 233.200 долараў. Яшчэ больш прадукцыі атрымалі рыжскія фірмы «РОСС», «ЛЛТТ» і «Анвел» — адпаведна на 2.585.855, 3.191.990 і 508.700 долараў. Гэта на паперы. А на справе? У ходзе праверкі высветлілася, што фірма «Велдэпе» ў Клайпедзе не зарэгістравана. Аналагічныя звесткі паступілі і з дэпартамента крымінальнай паліцыі Латвіі — фірмаў «Анвел» і «РОСС» у гэтай краіне не існуе. А «ЛЛТТ» хаця і займаецца пастаўкамі цыгарэт з Заходняй Еўропы, але аперацый з беларускімі партнёрамі не ажыццяўляла.

Дарэчы, на сённяшні дзень ніводная з фірмаў — пастаўшчыкоў і атрымальнікаў тытунёвых вырабаў не заявіла сваіх прэтэнзій па прычыне затрымкі некаторых партый тавару на мытных складах. Ніякіх дакументаў, якія б пацвердзілі законнасць дзейнасці і былі завераны падатковымі органамі сваіх дзяржаў, гэтыя фірмы таксама не прадставілі. Няўжо яны зусім абыякавыя да лёсу грузу, які каштуе многія дзесяткі тысяч долараў? Альбо заходняя фірма рызыкуе страціць яшчэ больш, фігуруючы ў, мякка кажучы, незаконных здзелках, і таму не падае «голасу»? Што ж датычыць звестак аб фірмах-пастаўшчыках па лініі «Інтэрпола», дык яны пакуль не паступалі. А гэта не дазваляе дакладна кваліфікаваць дзеянні гродзенскіх структур, якія «накіроўвалі» цыгарэты неіснуючым партнёрам з Прыбалтыкі.

Пасля ўказа Прэзідэнта Беларусі, якім увогуле забаронена захоўваць на мытных складах тытунёвыя вырабы без акцызных марак, ажыццяўляць аферы, у прыватнасці, вышэйпамянёны «транзіт», стала куды больш складана. Тым не менш, «левых» цыгарэт у Гродне па-ранейшаму процьма.

За 9 месяцаў гэтага года аддзелам падатковых расследаванняў дзяржаўнай падатковай інспекцыі па Гродне канфіскавана тытунёвых вырабаў імпартнай вытворчасці амаль на 5,5 мільярда рублёў. Напрыклад, у гродзенца К. было падрыхтавана да рэалізацыі 3500 пачкаў. А ў гаражы Г. мелася ажно 37.100 пачкаў «Голдэн Амерыкі» ў дадатак да 800 пачкаў, якія былі «накрыты» на месцы гандлёвай здзелкі.

Характэрна, што гэтыя і іншыя затрыманыя дзялкі (так званае сярэдняе звяно, якое разбірае «фуру» з «левымі» цыгарэтамі) ніколі не выдаюць каналы, па якіх атрымліваецца гэты тавар. А некаторыя асобы праз нейкі час зноў бяруцца за тытунёвы бізнес, каб спачатку вярнуць страчанае на штрафах, а потым займець прыбытак.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# РАСКЛАД ПРЫГАРАДНЫХ ЦЯГНІКОЎ НА ЗІМОВЫ ПЕРЫЯД

| Станцыя назначэння | Дні | Час | Прыпынкі |
|---|---|---|---|
| **МІНСК—АСІПОВІЧЫ** | | | |
| Асіповічы | штодня | 00-29 | да прып. Новае Сяло — усюды, далей — па станцыях |
| Асіповічы | штодня | 04-54 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 06-02 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 06-51 | усюды |
| Пухавічы | вых. | 07-21 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 07-56 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 08-32 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 09-09 | усюды |
| Асіповічы | вых. | 09-54 | без прып. Зазерка, Вендзеж, Веленскі |
| Талька | вых. | 10-20 | усюды |
| Асіповічы | вых. | 10-41 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 11-30 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 12-21 | усюды |
| Талька | вых. | 12-57 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 13-14 | усюды |
| Талька | вых. | 13-52 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 14-06 | усюды |
| Талька | вых., пятн. | 14-48 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 15-20 | усюды |
| Талька | штодня | 15-55 | без прып. Зазерка, Дрычын, Вендзеж, Веленскі |
| Асіповічы | штодня | 16-40 | усюды |
| Пухавічы | вых., пятн. | 16-54 | без прып. Седча, Зазерка, Раўнаполле, Новае Сяло, Дрычын, Вендзеж |
| Асіповічы | штодня | 17-30 | усюды |
| Талька | штодня | 18-32 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 19-04 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 20-29 | усюды |
| Асіповічы | штодня | 21-59 | без прып. Вендзеж, Весялоўскі, Вярхі, Савецкі |
| **МІНСК—МАЛАДЗЕЧНА** | | | |
| Беларусь | штодня | 00-31 | без прып. Лебядзіны |
| Маладзечна | штодня | 04-26 | без прып. М. Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі, Лебядзіны |
| Маладзечна | штодня | 05-03 | без прып. Лебядзіны |
| Аляхновічы | штодня | 06-09 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 06-35 | без прып. Зялёнае, Анусіна, Пралескі, Баяры, Мясата, Татаршчызна, Лебядзіны |
| Маладзечна | штодня | 06-49 | без прып. М. Мора, Крыжоўка, Хмелеўка, Вязынка, Ласі, Крыніца, Селівонаўка |
| Маладзечна | штодня | 07-38 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 08-00 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 08-15 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 08-50 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 09-00 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 09-22 | усюды |
| Маладзечна | вых. | 09-45 | без прып. Хмелеўка, Раманы, Ласі, Селівонаўка |
| Маладзечна | штодня | 09-54 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 10-20 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 10-50 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 11-04 | усюды |
| Маладзечна | вых. | 11-34 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 12-00 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 12-35 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 12-55 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 13-24 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 13-39 | усюды |
| Аляхновічы | вых. | 14-31 | усюды |
| Маладзечна | вых., пятн. | 15-02 | без прып. М. Мора, Хмелеўка, Анусіна, Раманы |
| Аляхновічы | штодня | 15-22 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 15-40 | без прып. Лебядзіны |
| Аляхновічы | вых. | 15-53 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 16-15 | усюды |
| Аляхновічы | вых., пятн. | 16-35 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 16-56 | усюды |
| Аляхновічы | штодня | 17-25 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 17-44 | усюды |
| Маладзечна | штодня | 18-30 | без прып. Лебядзіны |
| Маладзечна | штодня | 19-16 | без прып. Лебядзіны |
| Маладзечна | штодня | 20-13 | без прып. Лебядзіны |
| Маладзечна | штодня | 21-14 | без прып. Лебядзіны |
| Маладзечна | штодня | 22-15 | без прып. Лебядзіны |
| **МІНСК—БАРЫСАЎ—ОРША** | | | |
| **Адпраўленне са ст. Мінск—Пасажырскі** | | | |
| Барысаў | штодня | 04-39 | без прып. Слабада, Дамашаны, Загор'е, Барсукі, Перамога |
| **Адпраўленне з п/п «Інстытут культуры»** | | | |
| Орша | штодня | 01-04 | без прып. Садовы, Слабада, Дамашаны, Загор'е, Барсукі, Перамога, далей усюды |
| Крупкі | штодня | 05-13 | усюды |
| Крупкі | штодня | 07-18 | усюды |
| Барысаў | штодня | 08-11 | усюды |
| Барысаў | рабочыя | 08-41 | усюды |
| Барысаў | вых. | 10-08 | усюды |
| Орша | штодня | 11-01 | усюды |
| Барысаў | рабочыя | 12-02 | усюды |
| Талачын | вых. | 12-02 | без прып. Беразіна, Неманіца, Замужанне, Беражок, Красноўка, Трацілава, Чырвоная Горка |
| Барысаў | вых., пятн. | 12-31 | усюды |
| Орша | штодня | 13-14 | без прып. Садовы, Слабада, Дамашаны, Загор'е, Барсукі, Нёманіца, Замужанне, Красноўка, Паравалачны, Галашоўка |
| Крупкі | рабочыя | 13-36 | усюды |
| Барысаў | вых. | 13-36 | усюды |
| Барысаў | штодня | 14-23 | усюды |
| Орша | штодня | 15-05 | без прып. Загор'е, Барсукі |
| Бобр | вых. | 15-42 | усюды |
| Крупкі | рабочыя | 15-42 | усюды |
| Барысаў | штодня | 17-05 | усюды |
| Крупкі | штодня | 17-46 | усюды |
| Орша | штодня | 18-28 | без прып. Загор'е, Барсукі, Перамога |
| Барысаў | штодня | 19-10 | усюды |
| Барысаў | штодня | 20-27 | усюды |
| Орша | вых. | 09-17 | без прып. Загор'е, Барсукі, Перамога, Беразіна, Нёманіца, Замужанне, Беражок, Красноўка, Трацілава, Чырвоная Горка |
| Талачын | вых. | 09-58 | без прып. Загорье, Барсукі, Перамога |
| Жодзіна | штодня | 16-35 | усюды |
| Барысаў | штодня | 21-36 | усюды |
| Орша | пятн. | 23-09 | да Барысава — усюды, далей па станцыях |
| **МІНСК—БАРАНАВІЧЫ—БРЭСТ** | | | |
| Баранавічы | штодня | 04-22 | усюды |
| Стоўбцы | штодня | 05-41 | усюды |
| Стоўбцы | штодня | 06-40 | усюды |
| Баранавічы | вых., пятн. | 07-18 | усюды |
| Стоўбцы | штодня | 07-45 | усюды |
| Баранавічы | штодня | 08-21 | усюды |
| Стоўбцы | вых. | 08-56 | без прып. Пціч, Мезінаўка, Атцэда, Станькава |
| Баранавічы | вых. | 11-29 | усюды |
| Брэст | штодня | 13-11 | без прып. Пціч, Воўчкавічы, Бярэжа, Станькава, 806-ы км, Клыпаўшчына, Мезінаўка, Атцэда, Кучкуны |
| Стоўбцы | штодня | 13-41 | усюды |
| Баранавічы | штодня | 14-13 | без прып. Пціч, Станькава, Мезінаўка, Атцэда |
| Стоўбцы | штодня | 17-32 | усюды |
| Стоўбцы | штодня | 18-22 | усюды |
| Баранавічы | штодня | 19-12 | усюды |
| Стоўбцы | штодня | 20-20 | усюды |
| Брэст | штодня | 22-19 | з прып. Бальніца, Курасоўшчына, Фаніпаль, Бярэжа, Койданава, Негарэлае, Стоўбцы, Гарадзея, Пагарэльцы, далей з усімі прып. |
| **Адпраўленне з п/п «Інстытут культуры»** | | | |
| Брэст | штодня | 00-42 | з прып. Бальніца, Курасоўшчына, Фаніпаль, Бярэжа, Койданава, Негарэлае, Стоўбцы, Гарадзея, Пагарэльцы, далей з усімі прыпынкамі |
| Стоўбцы | штодня | 09-15 | усюды |
| Стоўбцы | вых. | 09-39 | усюды |
| Стоўбцы | вых. | 10-29 | усюды |
| Брэст | штодня | 10-47 | усюды |
| Стоўбцы | вых. | 12-11 | усюды |
| Стоўбцы | штодня | 12-46 | усюды |
| Гарадзея | вых., пятн. | 14-50 | усюды |
| Стоўбцы | штодня | 15-24 | усюды |
| Баранавічы | штодня | 16-11 | усюды |
| Баранавічы | штодня | 16-59 | без прып. Рошча, Пціч, Станькава, Мезінаўка, Атцэда, Кучкуны, Сінява |
| Баранавічы | штодня | 21-12 | усюды |
| Стоўбцы | штодня | 22-40 | без прып. Мезінаўка |

**Пасажырскія цягнікі**:
Баранавічы 5-30 — прып. Фаніпаль, Койданава, Негарэлае, Стоўбцы, Гарадзея, Пагарэльцы;
Баранавічы 5-51 — прып. Фаніпаль, Койданава, Негарэлае, Стоўбцы, Гарадзея, Коласава;
Баранавічы 7-06 — суб. — прып. Фаніпаль, Койданава, Негарэлае, Стоўбцы, Гарадзея, Коласава;
Брэст 17-12 па станцыях — адпраўляюцца з прып. Мінск—Пасажырскі.

***За зменамі ў руху прыгарадных цягнікоў сачыце ў раскладах на станцыях Беларускай чыгункі.***




Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## СТАРАЯ ДОБРАЯ ТРАДЫЦЫЯ І НАШАМУ ЧАСУ НЕ ШКОДЗІЦЬ

Рэспубліканскі конкурс маладых прадаўцоў і касіраў-кантралёраў магазінаў спажывецкай кааперацыі адбыўся на Гомельшчыне. У чарговы, дванаццаты раз базай для яго арганізацыі сталі раённы універмаг і Дом кнігі Добрушскага раённага спажывецкага таварыства — аднаго з лепшых у рэспубліцы.

У рэспубліканскім конкурсе, якому папярэднічалі раённыя і абласныя, удзельнічалі 48 чалавек з 29 раёнаў Беларусі. Усе яны паказалі добрае веданне ўмоў і спецыфікі гандлю ў сучасных умовах пераходу да рыначных адносінаў, высокую культуру абслугоўвання пакупнікоў.

А першыя тры месцы занялі прадаўшчыца Добрушскага раённага спажывецкага таварыства Святлана Таўстаног, касір-кантралёр Івацэвіцкага — Ганна Дылько і прадаўшчыца кнігарні Пінскага таварыства Алена Гарох, якія ўзнагароджаны ганаровымі граматамі, пуцёўкамі ў нарачанскі санаторый «Прыазёрны» і падарункамі. Граматамі або асобнымі прызамі ўзнагароджаны і многія іншыя.

**Аляксандр АФЯРОЎСКІ,**
**начальнік аддзела кніжнага гандлю Белспажыўсаюза.**

## МУЧНЫЯ ПАКУТЫ

Каб ведаў, дзе ўпадзеш, саломкі падаслаў бы. Гэтая вядомая прымаўка прыйшла на думку, калі слухаў споведзь дырэктара жлобінскай вытворча-гандлёвай фірмы «Дзедал» Юрыя Пятрова. Што і казаць, у няпростую гісторыю трапіў Юрый Міхайлавіч, а разам з ім і калектыў, які ён узначальвае.

Як высветлілася, яшчэ на пачатку гэтага года ў ВГФ «Дзедал» паступіла прапанова наконт пастаўкі мукі вышэйшага гатунку ад фірмы «Аўрора» з горада Нікалаева. Аднак па нейкіх прычынах дагавор тады не падпісалі. І вось у жніўні супрацоўнікі «Дзедала» яшчэ раз звязаліся па тэлефоне з фірмай «Аўрора». Яе прадстаўнік, які назваўся Андрэем Аляксеевічам, прапанаваў муку. Праўда, папрасіў заключыць дагавор з прыватным прадпрыемствам «Кадэт», маўляў, гэта адно і тое ж. Паколькі жлобінскіх прадстаўнікоў цалкам задавальнялі прапановы ўкраінцаў, яны 9 жніўня падпісалі два дагаворы з прыватным прадпрыемствам «Кадэт» на пастаўку мукі вышэйшага гатунку. Усе перамовы з боку прыватнай фірмы «Кадэт» вялі Андрэй Аляксеевіч, які прадставіўся намеснікам дырэктара і вырашаў тэхнічныя задачы, звязаныя з адпраўкай грузу, афармленнем яго на мытні, а дырэктар Анатоль Ільіч Аргіраў займаўся аплатай, праверкай банкаўскіх рэквізітаў.

Згодна з дагаворам № 20-07/96 ад 9 жніўня прыватнай фірме «Кадэт» было пералічана 356.842.000 беларускіх рублёў на рэквізіты, указаныя ў дагаворы (плацежнае даручэнне № 192). Аплату наступнага вагона дамовіліся зрабіць пасля загрузкі і адпраўкі з чыгуначнай станцыі Нікалаева першага вагона.

Мінула некалькі тыдняў пасля аплаты. І вось 27 жніўня ў Жлобін па факсу прыйшла таварна-транспартная накладная з адзнакамі Нікалаеўскага камбіната хлебапрадуктаў і Нікалаеўскай мытні, дзе пацвярджалася, што вагон № 28137168 адгружаны ў адрас фірмы «Дзедал». Зрабілі яшчэ адну перадаплату ў суме 120.117.600 расійскіх рублёў, якія былі набыты на Міжбанкаўскай валютнай біржы. 29 жніўня ўсё той жа Андрэй Аляксеевіч паведаміў, што фірма займаецца адпраўкай другога вагона. Аднак час ішоў, а абяцанага вагона з мукой так і не было. 3 верасня дырэктар фірмы «Дзедал» звярнуўся на чыгуначную станцыю Жлобін з просьбай дапамагчы адшукаць вагон № 28137168, які ўжо павінен быць на месцы. Праз нейкі час чыгуначнікі паведамілі, што такога вагона ўвогуле не існуе. А Нікалаеўскі камбінат хлебапрадуктаў пацвердзіў, што такі вагон не адгружаўся, тое ж самае адзначыла і Нікалаеўская мытня.

Кіраўнікі фірмы «Дзедал» зразумелі, што іх ашукалі, прычым на буйную суму. І тады дырэктар 10 верасня перадаў скаргу ў Генеральную пракуратуру Украіны. Былі прыкладзены і копіі падробленых дакументаў. 7 кастрычніка Юрый Пятроў звярнуўся па дапамогу ў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. Аднак мінула больш як два месяцы, а нічога канкрэтнага па гэтай справе ніхто не зрабіў: паперы проста перакідваюцца з аднаго ведамства ў другое. У той жа час прайдзісветы, якія ўчынілі два злачынствы: падробку дакументаў і махлярства ў асабліва буйных памерах, адчуваюць сябе вольна, шыкуюць на чужыя грошы.

Вядома, Украіна ўжо іншая дзяржава. Але ж і там дзейнічаюць законы, прымаюцца адпаведныя санкцыі супраць махляроў. Больш таго, існуе спецыяльная Канвенцыя ад 22 студзеня 1993 года аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, якая прадугледжвае аказанне гэтай самай дапамогі. Чаму ж тады маўчаць праваахоўныя органы Украіны? Чаму фактычна пакрываюць прайдзісветаў, якія ўчынілі махлярства ў асабліва буйных памерах? Можа таму, што і прадстаўнікі нашых праваахоўных органаў, мякка кажучы, не праяўляюць належнай актыўнасці, каб дапамагчы чалавеку. Маўляў, ну і што, калі пагарэлі нейкія кааператары. Больш уважліва будуць ставіцца да афармлення дакументаў.

Што ж, магчыма, як кажуць, кіраўнікі фірмы далі маху, паверыўшы абяцанням закардонных камерсантаў. Але ж яны ўжо панеслі велізарныя страты, не хацелася б аказацца на іх месцы. Бо, па словах дырэктара прадпрыемства, яго і так ледзь не хапіў удар, калі даведаўся пра сумны фінал. Для пагашэння банкаўскага крэдыту давялося прадаваць кватэру і аўтамабіль. Але ж нельга патураць і прайдзісветам, якія заўтра, а магчыма і сёння ўжо расставілі новыя пасткі для даверлівых людзей. І невядома толькі, хто і калі ў іх трапіць.

Зноў жа, кожны чалавек мае права на абарону сваіх інтарэсаў. І калі парушаецца гэта права, павінен дзейнічаць Яго Вялікасць Закон. А паколькі мы перад усім светам заявілі, што будуем прававую дзяржаву, то і дзейнічаць павінны адпаведным чынам. Ва ўсякім разе, чалавек можа разлічваць на дапамогу сваёй дзяржавы, якой ён рэгулярна выплачвае падаткі і тым самым, па сутнасці, утрымлівае яе. Да каго ж тады яму звяртацца па дапамогу? Хіба, да «крутых хлопцаў»? Тыя з-пад зямлі дастануць. Але гэта ўжо самавольства. А жыць мы ўсё ж павінны па законах.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

*г. Жлобін.*

## СУЧАСНІКІ

### Знаёмцеся: Валерый ГУРЫН, беларускі акадэмік



***Пашпартныя даныя**: нарадзіўся ў Віцебску ў 1938 г. Жыве ў Мінску.*

***Нагода для публікацыі**: вылучэнне на Дзяржаўную прэмію Беларусі 1996 г. у галіне навукі і тэхнікі цыкла яго работ з чатырох кніжак, прысвечаных механізмам тэрмарэгуляцыі ў норме і паталогіі.*

***Адукацыя**: скончыў Віцебскі медыцынскі інстытут у 1961 г.*

***Ступені навуковага росту**: кандыдат медыцынскіх навук (1966), доктар медыцынскіх навук (1973), прафесар (1974), член-карэспандэнт АН Беларусі (1986), акадэмік (1994).*

***Службовыя пасады**: загадчык кафедры фізіялогіі чалавека і жывёл БДУ з 1990 г., дырэктар акадэмічнага Інстытута фізіялогіі АН Беларусі з 1986 г., акадэмік-сакратар Аддзялення медыка-біялагічных навук з 1995 г.*

***Знакі грамадскага прызнання**: старшыня праўлення Беларускага фізіялагічнага таварыства, старшыня Беларускага аддзялення Міжнароднай славянскай акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры, замежны член Фізіялагічнага таварыства Вялікабрытаніі, член Міжнароднай арганізацыі даследчыкаў мозгу.*

***Галоўныя навуковыя дасягненні**: высветліў уплыў розных фармакалагічных рэчываў на тэрмарэгуляцыю ў здаровым і хворым арганізме. Растлумачыў цэнтральныя і перыферычныя механізмы тэрмарэгуляцыі. Даў медыцынскія рэкамендацыі (у тым ліку на ўзроўні вынаходніцтва), абгрунтаваныя ўласнымі вынікамі даследаванняў.*

***Прадмет асаблівага гонару**: канцэпцыя растармажвальнага ўзбуджэння ў працэсах цеплавой рэгуляцыі ў арганізме.*

***Аб чым марыць**: што фізіёлагі краін СНД некалі зноў будуць разам.*

А цяпер — некалькі пытанняў вучонаму.

**— Што ваша навука дала ў практычным плане?**

— Выяўлены многія заканамернасці ліхаманкавых станаў, высветлена роля фактараў, якія процідзейнічаюць павышэнню тэмпературы, знойдзены растармажвальныя нервовыя цэнтры, якія праяўляюць пастаянна высокую актыўнасць... Дык вось, калі ўсё гэта ёсць, то прымяненне — гэта толькі пытанне часу. Можа, яшчэ і грошай.

**— Ёсць такое парадаксальнае меркаванне, і яго выказваюць таксама і медыкі, што высокая тэмпература — гэта ў пэўным сэнсе здаровая рэакцыя арганізма на інфекцыю, інтаксікацыю і гэтак далей, і таму змагацца з ёй не трэба. А як лічыце вы?**

— Паводле распрацовак беларускай фізіялагічнай школы, да 39,50 ідзе актывізацыя імуннай сістэмы арганізма, і тэмпературу збіваць не трэба. Хіба што ў хворага ёсць нейкія проціпаказанні (напрыклад, наступаюць фебрыльныя сутаргі). Вышэй за 39,50 тэмпературы непажадана даваць падымацца, бо інакш у клетках пачнуцца рэакцыі разбурэння мембран.

**— Як вам удалося стаць членам Фізіялагічнага таварыства Вялікабрытаніі?**

— Мяне парэкамендавалі шэсць англійскіх фізіёлагаў, вось і ўсё.

**— Што вас больш за ўсё турбуе?**

— Стан навукі. Моладзь страчвае цікавасць да яе. Лічу сваёй задачай зрабіць усё, каб фізіялагічная навука не развальвалася, каб яна нават вярнула нешта з таго, што было ў часы Саюза.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ,**
**аглядальнік БелаПАН — спецыяльна для «Звязды».**

# ЖЫЛЛЁ МАЛАДЫХ: СЁННЯШНІЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ

*Доўгі час пасля з'яўлення прэзідэнцкага ўказа № 358 ад 10 верасня 1996 года «Аб мерах па паляпшэнню жыллёвых умоў моладзі» ў рэдакцыі нашай газеты чулася шмат тэлефонных званкоў. Нас прасілі патлумачыць гэты дакумент. Уся справа ў тым, што на час яго прыняцця не былі распрацаваны дакладныя рэкамендацыі, і адказныя работнікі, з якімі звязваўся тады карэспандэнт «Звязды», не змаглі сказаць нічога канкрэтнага, маўляў, самі чакаем інструкцый. Разгубленыя грамадзяне не маглі ні ад каго пачуць канкрэтнага адказу. Перш за ўсё па прычыне таго, што нідзе не было растлумачана, хто непасрэдна трапляе ў катэгорыю «маладых» — тыя, каму трыццаць пяць, ці тыя, каму 18—20 гадоў. Да таго ж дзейнічала даўно прынятае правіла да пастаноўкі на ўлік тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў: пяцігадовая прапіска ў адным з населеных пунктаў Беларусі. Таму ў райвыканкомах адчувалася лёгкая паніка з нагоды цьмяных месцаў у дакуменце. На ўлік прымаліся адзінкі — з абавязковым пяцігадовым тэрмінам прапіскі і з яўнымі «прыметамі» маладосці. Узнік вялікі ажыятаж. Што, зрэшты, і не дзіўна, бо ў прэзідэнцкім указе прапаноўвалася дзейсная дапамога маладым сем'ям, якія знаходзіліся без належных жыллёвых умоў. Аднак без канкрэтных рэкамендацый праводзіць адпаведную работу выканаўчым уладам было даволі складана. У якім стане знаходзіцца пытанне зараз? Менавіта з гэтай балючай шмат для каго праблемай накіраваўся карэспандэнт «Звязды» ў адміністрацыю Партызанскага раёна Мінска. Якраз быў прыёмны дзень — заявы аб пастаноўцы на ўлік маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў прымаліся спецыялістам аддзела ўліку, размеркавання і прыватызацыі жылля Іванам Трафімавічам Рубанам, пачынаючы з 9 гадзін раніцы і да 18.00. Нягледзячы на ранні час (я выбраўся на заданне даволі рана — у восем раніцы), каля дзвярэй ужо была чарга ў пяць—сем чалавек. Праз паўгадзіны колькасць людзей павялічылася прыкладна ў два разы. Стукаю ў дзверы загадчыка аддзела ўліку, размеркавання і прыватызацыі жылля Аляксандра Мікалаевіча Усіка (на гадзінніку — 8.35). Першыя ўдакладненні атрымліваю ад яго.*

— Ведаеце, — пачаў гутарку Аляксандр Мікалаевіч, — пасля выхаду прэзідэнцкага ўказа, прысвечанага паляпшэнню жыллёвых умоў моладзі, было вельмі шмат званкоў і пытанняў ад грамадзян. Па-першае, як вы памятаеце, не было вызначана, каго называць маладой сям'ёй, як маладой сям'і рэалізаваць свае правы і гэтак далей. Так працягвалася да выхаду дадатковага прэзідэнцкага ўказа № 428 ад 18 кастрычніка гэтага года — шмат супярэчнасцей было знята (нагадаю, што гэты Указ Прэзідэнта называўся «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 10 верасня 1996 г. № 358». Удакладненні гучалі так: «пункт 8 (папярэдняга ўказа. — **М.Л.**) выкладаць у наступнай рэдакцыі: «8. Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, прадпрыемствам, установам і арганізацыям прымаць на асобны ўлік асоб, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, маладых грамадзян з ліку адзінокіх маці, разведзеных (аўдавелых) людзей, што выхоўваюць непаўналетніх дзяцей, якія ў тым ліку жывуць разам з бацькамі (незалежна ад узроўню забяспечанасці жылой плошчай), у інтэрнатах, у службовых жылых памяшканнях, па дагавору паднайму ў дамах дзяржаўнага і грамадскага фонду ці па дагавору найму ў дамах, што належаць жыллёва-будаўнічым кааператывам ці грамадзянам на праве ўласнасці, а таксама ў якасці часовых жыхароў (незалежна ад працягласці пражывання), калі яны выказваюць жаданне ажыццявіць будаўніцтва (рэканструкцыю) альбо пакупку жылых памяшканняў за кошт уласных сродкаў, аднаразовых бязвыплатных субсідый і льготных крэдытаў». Таксама далей быў вызначаны ўзроставы цэнз: «пад маладымі грамадзянамі разумеюцца асобы ва ўзросце 30 гадоў (уключна), пад маладымі сем'ямі — сем'і, у якіх муж ці жонка знаходзіцца ва ўзросце да 30 гадоў (уключна)». Такім чынам, была ўнесена яснасць.

Аднак дасюль нявырашаным застаецца працэс выдзялення субсідый. Што ж датычыцца агульнай палітыкі па пытанню, вызначанаму ўказамі Прэзідэнта, то выканаўчыя ўлады Мінска выпрацавалі яе, сабраліся, прааналізавалі становішча тых, хто ўжо быў на ўліку, выбралі з іх неабходных (падпадаючых пад катэгорыю маладых).

**— Ці бралі вы на ўлік жадаючых ужо ў верасні?**

— Так, падобная работа праводзілася. Але пасля вызначэння мяжы ўзросту асобным грамадзянам прыйшлося адмовіць, бо некаторыя ўжо мелі ўзрост 30—35 гадоў. Што ж датычыцца графіка цяперашняй работы, то скажу адразу: нагрузка сур'ёзная. Наш раён яшчэ не такі вялікі, як, скажам, Фрунзенскі, ці Заводскі (я маю на ўвазе колькасць асоб, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў), аднак выходзілі на работу і ў выхадныя, і ў святы. Зараз можна сказаць адно: у нас ёсць база даных па маладых сем'ях. Цікава, што пачалі звяртацца ў райвыканком тыя, хто раней не бачыў перспектыў пастаноўкі на ўлік. Зараз яны зразумелі, што з'явіўся рэальны шанц атрымаць уласнае жыллё. Таму што раней такой магчымасці не было — існавалі так званыя льготнікі (г. зн. тыя, хто меў права на атрыманне бясплатнага дзяржаўнага жылля), астатнія былі вымушаны спадзявацца на ўласныя сродкі, якія, як мы гэта ведаем, вельмі сціплыя.

**— Аляксандр Мікалаевіч, а каго ўвогуле можна ставіць на ўлік?**

— Згодна з існуючым заканадаўствам, права быць пастаўленымі на ўлік маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў маюць асобы, якія жывуць у Мінску (прапісаны) не менш, як 5 гадоў і забяспечаны жылой плошчай менш за 6 кв. м на чалавека. Калі ў гэтай катэгорыі знаходзяцца маладыя людзі, то яны маюць права на субсідыю ці крэдыт для будаўніцтва (рэканструкцыі) або куплі жылля. Астатнія, гэта значыць тыя, у каго тэрмін прапіскі менш чым 5 гадоў, пакуль што маюць права толькі на крэдыт.

**— Выходзіць, што прапіска абавязковая?**

— Так, яе ніхто не адмяняў. Прапіска з'яўляецца асноўным крытэрыем.

**— Ці прымаюцца на ўлік асобы з часовай прапіскай?**

— Прымаюцца і з часовай, аднак тут не маюцца на ўвазе студэнты, бо за імі ж застаецца права на тую жылплошчу, дзе раней пражывалі. А вось сем'і ваеннаслужачых, якія прапісаны часова, да атрымання жылля, маюць права для пастаноўкі на ўлік.

**— А як зараз справы з памерамі субсідый і крэдытаў?**

— Працэнтныя стаўкі былі вызначаны ўказам. А вось рэальныя сумы назваць цяжка, усё залежыць ад розных умоў. Банкі ўжо прынялі адпаведныя рашэнні, на падставе якіх грамадзяне будуць атрымліваць крэдыты. Усё будзе вырашацца канкрэтна па кожнаму асобнаму выпадку. Пакуль жа ідзе працэс афармлення чэргаў. Пасля пачнецца атрыманне сродкаў. Парадак налічэння субсідый хутка павінен быць распрацаваны ўрадам.

**— Хто-небудзь ужо іх атрымаў?**

— Пакуль не, але ўжо некалькі сем'яў падалі ў адміністрацыю Партызанскага раёна неабходныя дакументы. Так, адны пачалі будаваць дом на долевых умовах яшчэ да ўказа, вельмі хваляваліся, што не хопіць сродкаў. Зараз у іх з'явілася рэальная магчымасць завяршыць пачатае будаўніцтва.

Ведаеце, закладзены асновы вельмі карыснай справы, якую я вітаю ад усёй душы. Яе б ужо даўным-даўно трэба было пачынаць. Зараз маладым дадзены вялікія льготы для набыцця (будаўніцтва) уласнага жылля. Усё будзе залежаць у далейшым ад эканамічнага становішча ў краіне.

Пасля размовы з Аляксандрам Мікалаевічам неяк лёгка стала на душы, з'явілася ўпэўненасць у тым, што настала ўжо тая пара, аб якой усе марылі — дзяржава пачала клапаціцца аб маладых. Здавалася б, што прасцей — выдзеліць куток для жыцця, для таго, каб будаваць уласны дом, сямейны ачаг.

На прыёме ў Івана Трафімавіча Рубана кіпела работа — са ЖРЭА прыслалі двух памочнікаў, якія адразу ўключыліся ў працэс пастаноўкі на ўлік. «Гэта яшчэ нічога, —жартуе Рубан, — спачатку аж боязна было за дзверы выглянуць, да таго шмат народу прыходзіла. Былі і тыя, хто абураўся наконт вызначанага ўзроставага цэнзу: так, адной жанчыне толькі ў жніўні 30 гадоў споўнілася, таму і не трапляе ў катэгорыю маладых...»

Справа наладзілася — чарговы наведвальнік запаўняў картку заявы: «У сувязі з неадпаведнымі жыллёвымі ўмовамі прашу прыняць мяне на ўлік...» У графе «прапіска» Іван Трафімавіч паставіў хлопцу «з 1995-га года» — гэта значыць, што да з'яўлення ўказа ён і не марыў пра пастаноўку на ўлік, чакаў бы пяцігадовага тэрміну пражывання. А зараз з'явіўся рэальны шанц на ўласную кватэру. Шанц амаль казачны па сённяшніх мерках. Неабходна толькі, каб ён спраўдзіўся.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# РЭАЛІЗАЦЫЯ НОВЫХ МАГЧЫМАСЦЕЙ

**Паблізу чыгуначнага вакзала ў беларускай сталіцы — вуліца Карла Маркса, 4 — адкрыта спецыялізаваная крама завода «Электроніка» навукова-вытворчага аб'яднання «Інтэграл».**

Ацэніць новую гандлёвую кропку, безумоўна, пакупнік. На гэта, вядома ж, патрэбен час. Адзінае, што бачна ўжо зараз, з першых дзён работы крамы, — прыстойнае, сучаснае афармленне гандлёвай залы, жаданне невялікага калектыву не толькі сустрэць пакупніка добразычлівай усмешкай, але ж і адказаць на ўсе пытанні і патрэбы спажыўца.

А ўвогуле, чым выклікана адкрыццё заводам «Электроніка» сваёй уласнай крамы? Якія спадзяванні ўскладае кіраўніцтва прадпрыемства на такі вось, пакуль што новы для сябе крок? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да дырэктара па маркетынгу завода «Электроніка» Ігара Талкачова.

— Па-першае, мы шукаем і сцвярджаем новыя шляхі для рэалізацыі ўласнай прадукцыі, увогуле прадукцыі аб'яднання. Крама знаходзіцца ў вельмі выгадным месцы. Паблізу — чыгуначны вакзал. Куды, як не сюды, зазірнуць у першую чаргу госці сталіцы. На іх спадзяёмся. Да таго ж у нас даволі нізкія цэны, яны амаль што роўныя адпускным заводскім цэнам.

— Параўнайце нашы цэны на гадзіннікі, электронна-вылічальныя машынкі з цэнамі, што ў іншых дзяржаўных і камерцыйных крамах, — розніца даходзіць да пяцідзесяці працэнтаў, — уключаецца ў размову Алена Васільеўна Марфіна. — Але мы не заспакойваем сябе ілюзіямі. Ведаем, што наперадзе нас чакае няпростая работа. Думаем пра тое, як прыцягнуць увагу спецыфічнага пакупніка, такога, які мэтанакіравана будзе ісці менавіта да нас. Па тыя ж мікрасхемы, напрыклад. У нас, у адрозненне ад прыватных гандляроў, што працуюць на тым жа рынку «Ждановічы», і гарантыі, і шырокі асартымент.

Крама завода «Электроніка» мае ў сваім асартыменце і бытавую электратэхніку, у адной з залаў да ўвагі пакупнікоў прадстаўлены аўдыёкасеты з запісамі. Будзем спадзявацца, што наперадзе ў гандляроў завода «Электроніка» — і поспех, і ўдача. Мажліва, ім і падобным да іх дзяржаўным гандлёвым структурам дапаможа кіраўніцтва краіны пэўным спрыяннем у вызначэнні падаткаў. Усё ж такі прадпрыемствы свядома, дзеля выпраўлення свайго становішча, ідуць на гандаль па цэнах нашмат ніжэйшых. Тым самым спрыяюць развіццю пакупной здольнасці насельніцтва, хутчэйшаму абарачэнню грашовых сродкаў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



НА ЗДЫМКУ: у адной з гандлёвых залаў новай крамы.

## *ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ*

# ПРАВІЛЫ ДАРОЖНАГА РУХУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

## АСНОЎНЫЯ ЗМЯНЕННІ І ДАПАЎНЕННІ

**(Працяг. Пачатак у №№ 266, 270, 271, 273)**

10.11. На дарогах па-за населенымі пунктамі **вадзіцелі саставаў транспартных сродкаў даўжынёй больш за 10 метраў,** скорасць якіх не павінна перавышаць **40 км/гадз**. *(было 50 км/гадз.),* абавязаны падтрымліваць паміж сваім і тым, што рухаецца наперадзе, транспартным сродкам такую дыстанцыю, каб транспартныя сродкі, што іх абганяюць, маглі без перашкод перастроіцца на раней займаемую імі паласу.

Гэта правіла не дзейнічае ў выпадках, калі самі вадзіцелі робяць абгон ці рыхтуюцца да яго, а таксама **пры руху ў арганізаванай транспартнай калоне.**

### 11. СКОРАСЦЬ РУХУ

11.1. Вадзіцель павінен весці транспартны сродак са скорасцю, якая не перавышае ўстаноўленых абмежаванняў **і забяспечвае вадзіцелю магчымасць пастаяннага кантролю за бяспечным рухам транспартнага сродку**. Пры гэтым ён павінен улічваць інтэнсіўнасць руху, асаблівасці і стан транспартнага сродку і перавозімага ім грузу, дарожныя і метэаралагічныя ўмовы (у прыватнасці, бачнасць у напрамку руху) *(гл. тэрмін «бачнасць у напрамку руху» гэтых Правілаў).*

Пры ўзнікненні перашкоды ці небяспекі для руху, якія вадзіцель у стане выявіць, ён павінен неадкладна прыняць меры да зніжэння скорасці, аж да спынення транспартнага сродку *(выключана «ці бяспечнаму для іншых удзельнікаў руху аб'езду перашкоды»).*

11.2. У населеных пунктах дазваляецца рух транспартных сродкаў са скорасцю не больш як 60 км/гадз., **а ў жылых зонах — не больш як 20 км/гадз.**

*Астатнія абмежаванні скорасці без змяненняў за выключэннем:*

**транспартным сродкам, якія перавозяць небяспечныя грузы, цяжкавагавым і буйнагабарытным транспартным сродкам — са скорасцю, якая не перавышае скорасці, устаноўленай пры ўзгадненні ўмоў перавозкі.**

### 12. АБГОН, СУСТРЭЧНЫ РАЗ'ЕЗД

**12.1. Перш чым пачаць абгон, вадзіцель павінен пераканацца ў тым, што паласа руху, на якую ён мае намер выехаць, свабодная і што ён гэтым манеўрам не створыць перашкод іншым удзельнікам руху, не прымусіць іх рэзка зварочваць або тармазіць.**

**12.2. Вадзіцелю забараняецца пачынаць і рабіць абгон, калі:**

**вадзіцель транспартнага сродку, які рухаецца наперадзе па той жа паласе, падаў сігнал левага павароту;**

**вадзіцелі, якія едуць за ім, пачалі абгон.**

12.3. Абгон забаронены:

на перакрыжаваннях, за выключэннем тых выпадкаў, калі абгон робіцца на дарозе, якая з'яўляецца галоўнай у адносінах да перасякаемай;

на пешаходных пераходах;

на чыгуначных пераездах і бліжэй чым за 100 метраў перад імі;

**транспартнага сродку, які робіць абгон ці аб'езд;**

у канцы пад'ёму і на іншых участках дарог з недастатковай бачнасцю.

**12.5. Аб'езд транспартнага сродку, вадзіцель якога падаў сігнал павароту налева і пачаў выкананне манеўру, робіцца з правага боку.**

### 13. ПРЫПЫНАК І СТАЯНКА

13.4. Прыпынак і стаянка забараняюцца:

на трамвайных пуцях, а таксама ў непасрэднай блізкасці ад іх, калі гэта стварае перашкоду для руху трамваяў;

на чыгуначных пераездах **і бліжэй як 50 м ад іх, у тунелях, а таксама на эстакадах, мастах, пуцеправодах і пад імі;**

у месцах, дзе адлегласць паміж суцэльнай лініяй разметкі (акрамя той, якая абазначае край праезнай часткі) і спыненым транспартным сродкам складае менш як 3 м;

**(Працяг будзе).**

# САМОТНЕЕ НА СВЕЦЕ БЕЗ СЯБРОЎ...

## Мінула 40 дзён, як перастала біцца сэрца Аляксандра Пятровіча Капусціна

Гэтая вестка, як і ўсе іншыя, дайшла да Гданьска са спазненнем. Пошта не паспявае. Беларускае тэлебачанне не даходзіць. Як і радыё таксама. Пакуль беларуская прэса хоць і бязвізава, ды ўсё-такі даволі доўга пераадольвала беларуска-польскую мяжу, гэта ўжо адбылося. Адбылося раптоўна і нечакана.

Чорным і змрочным стаўся гэты дзень — 16 кастрычніка 1996 года для многіх ягоных сяброў, паплечнікаў, калег, творцаў, чытачоў.

***Не стала Аляксандра Пятровіча Капусціна.***

Пакуль мы ў сваім будзённым тлуме прадаўжаем вырашаць глабальныя і не вельмі праблемы, праблемкі і проста пытанні, часам пустыя, не вартыя ўвагі, ягоная душа, ужо аддзеленая ад цела, пазірае і пазірае на нас з вышыні (не «свысока» — гэтага ейны гаспадар, дзякуй Богу, не любіў сам і не ўхваляў у іншых).

***Не стала Аляксандра Капусціна.***

Проста чалавека, на долю якога, як і большасці нашых сучаснікаў, шчодра выпалі і беды, і горыч, і нягоды. Але жыццё якіх было гаюча асветлена шчырымі памкненнямі да лепшага, да будучыні, спадзевамі на гэтую будучыню. Не стала чалавека, душа якога была разнасцежана дабру і на грам не прымала фальшу. Душа, спакутаваная, збалелая, не аднойчы ўджаленая вострымі мітрэнгамі бесталковых часін, але шчасліва ўсцешаная тым, што служыла гэтакаму чалавеку ў ягоных нястомных, няўрымслівых, непаўторназвыклых і някідкіх, але тым і каштоўных клопатах пра лепшасць зямнога жыцця — майго (у прамым сэнсе), твайго, нашага.

Не стала проста беларуса. Беларуса, якіх сотні і тысячы і лёс якіх так цесна знітаваны з лёсам Радзімы, сваёй Айчыны — сваёй Беларусі. Але яшчэ і таго беларуса, які не мог уявіць сябе адасобленым ад іншых, тых братоў па крыві і па духу, разам з якімі ваяваў на палях Вялікай Айчыннай, поплеч з якімі цаглінка да цаглінкі мураваў той агульны і, як здавалася, навекі змацаваны прыязнасцю дом, дзе ён пачуваўся вольна, годна, дастойна і дзе раптоўна стала так шмат высокіх, глухіх і самотных перагародак. Не змірыўшыся з гэтым, ён да апошняга шчыраваў на раптоўна збяднелай ніве супольнасці. Шчыраваў, не дэкларуючы, не грукаючы ў грудзі — ні сабе, ні іншым: хопіць гэтага грукату. Ад яго ўжо шмат сэрцаў лопнула, шмат душ зняверылася, шмат людзей зачынілася адзін ад аднаго.

Мо гэтага грукату, які і дасюль чуецца то гучна, то вельмі гучна, і не вытрымала ягонае сэрца, калі, да берагоў запоўненае болем, яно захлынулася, не змагло, не здолела ўвабраць у сябе яшчэ адну бяду, яшчэ адну штучна створаную мітрэнгу сённяшняга тлумнага часу. Мо таму ў пэўным сэнсе слова паказальна (хоць як жорстка гэта гучыць), што сэрца спынілася падчас чарговых, і, на жаль, не апошніх спрэчак-высвятленняў-тлумачэнняў, нібыта гэтым, самым апошнім сваім штуршком хацела папярэдзіць, папрасіць: паразумнейце, паразумейцеся, людзі, падабрэйце...

Ці пачуюць?..

Не стала проста пісьменніка. Са сваім стылем, са сваёй тэмай, са сваім словам. Яго боль, яго клопат — у ягоных творах. І лепш адзін раз прачытаць напісанае ім, чым сто разоў тлумачыць, што ён хацеў сказаць. Гэта быў пісьменнік са сваёй пазіцыяй, да якой хінуліся і гарнуліся многія. Гарнуліся і будуць гарнуцца, бо пазіцыя Аляксандра Капусціна заснавана на дабрыні, прыязнасці, прынцыповасці, спагадлівасці, шчырасці.

Не стала проста сябра. Сябра многіх. І майго таксама.

***Ніхто не пачуў:***
***Яблык упаў дасвеццем —***
***Ля Халопеніч,***
***на Беларусі.***
***Ніхто не пачуў —***
***Ні людзі, ні травы, ні вецер...***
***Ніхто,***
***А шар зямны***
***Здрыгануўся.***

Як жа павінен здрыгануцца зямны шар, калі з жыцця знікае і адыходзіць у сусвет чалавек?!

***Не стала Аляксандра Капусціна.***

Засталіся яго кнігі. У маёй бібліятэцы таксама. І ўсе з ягонымі шчырымі аўтографамі. Засталіся ягоныя некаторыя кнігі па-руску ў маім перакладзе. Застаўся ягоны голас на магнітнай стужцы, калі ён разам з жонкай Эміліяй Іванаўнай і іншымі сябрамі-калегамі шчыра і імпэтна спявалі на такіх частых раней шчымліва-шчырых і такіх зрадзелых апошнім часам сяброўскіх спатканнях у маёй хаце.

Мы былі знаёмы з 1971 года, калі сустрэліся на працы ў БЕЛТА. Сяброўства яшчэ больш умацавалася пасля яго цудоўна выкананай ролі свата на нашым з жонкай вяселлі.

Я дагэтуль хаджу ўражаны, самотны, прыгнечаны.

Не стала сябра. Яшчэ аднаго.

Колькі ж такіх страт прынёс суровы час за апошнія гады?.. Колькі шчырых руплівцаў адышло ў іншы свет?.. Не з кожным былі ў нас адносіны роўнай блізкасці, але гэта былі спатканні шчаслівыя і мудра-карысныя для мяне.

***Пімен Панчанка***
***Максім Танк***
***Раман Катужанец***
***Барыс Сачанка***
***Іван Чыгрынаў***
***Аляксандр Капусцін***

Баюся, каб, не дай Бог, на гэтым свеце не засталіся толькі душы сяброў і паплечнікаў.

Спадзяюся, што ў нашым, у маім жыцці застануцца і самі сябры, паплечнікі, калегі, суразмоўцы, супрацоўнікі...

Ну вось, хацеў проста, нягучна, шчыра...

Даруй, Аляксандр Пятровіч.

Даруй і за гэтую гучнасць, і за ўсё...

**Анатоль БУТЭВІЧ.**
*г. Гданьск.*

## У КОЖНЫМ ДРЭВЕ — КАРУНКІ НЕПАЎТОРНЫЯ



У мінчаніна Аляксандра Дэйко спецыяльнасць сціплая — ён працуе зваршчыкам. Але захапленне маладога майстра вартае таго, каб расказваць аб ім шмат. Нават лепей не слухаць расказ, а моўчкі назіраць, як з пад сталёвага разца выходзяць дзіўныя карункі. Ліпа, бяроза, асіна — кожнае з гэтых дрэў мае свае асаблівыя якасці і дае рэзчыку шырокія магчымасці для творчасці. Многія вырабы Аляксандра закуплены замежнымі знаўцамі для сваіх калекцый дэкаратыўна - прыкладнога мастацтва.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



36,6°

# ГЭТЫЯ ДАЛІКАТНЫЯ НЫРКІ

***Ныркі — сапраўдныя працаўніцы: пры вазе кожнай з іх не больш за 200 г за суткі яны апрацоўваюць да 1000 (!) літраў крыві!***

### Ныркі любяць

● Наш арганізм на 80 працэнтаў складаецца з вады. Толькі выпіваючы дастатковую колькасць вадкасці (ніяк не менш як 1,5—2 л у дзень), вы падтрымліваеце неабходны водна-салявы баланс, што так важна і для нырак, і для ўсяго арганізма.

Што піць? Зразумела, не спіртное: яно разбурае ныркі (ды і не толькі іх), а ў празмернай колькасці выклікае вострую ныручную недастатковасць — стан, небяспечны для жыцця. Не садавінныя, падсалоджаныя газіраваныя напоі — рэчывы, што ўтрымліваюцца ў іх, раздражняюць ныркі. І не мінералку — калі шмат і без прызначэння ўрача. Павышаная колькасць тых ці іншых соляў у розных мінеральных водах можа садзейнічаць утварэнню камянёў у нырках і мочавыводзячых шляхах.

Карысна піць гатаваную ваду, чай, малако (яго, дарэчы, С. Боткін ацэньваў як «каштоўны сродак пры лячэнні хвароб нырак»), журавінавы і бруснічны морсы. Яны выводзяць лішак вадкасці з арганізма, зніжаюць канцэнтрацыю мачы і ў нейкай ступені папярэджваюць утварэнне камянёў.

● Ныркі ўпіваюцца асалодай, калі вы... стаіце на карачках. Каленна-локцевая поза надзвычай для іх камфортная: яна дапамагае нармалізаваць адток мачы.

● Яны вялікія аматаркі руху — танцаў, лыжных прагулак, гімнастыкі...

● Вітамін А ныркі гатовы «паглынаць» колькі заўгодна і будуць вам за яго толькі ўдзячныя.

Большую частку вітаміну А наш арганізм сінтэзуе з караціну. Яго крыніцы: морква, салодкі перац, абляпіха, зеляніна пятрушкі, шпінату, кропу, шчаўя, цыбулі і асабліва кінзы.

● Вельмі любяць ныркі гарбуз: і пюрэ, і сок, і кашы (гарбузова-прасяную ці рысавую). Гарбуз уздзейнічае мачагонна, не раздражняе ныркі і мочавыводзячыя шляхі. Тымі ж выдатнымі ўласцівасцямі валодаюць кавун і дыня не вельмі салодкіх сартоў. А яшчэ для нырак карысныя яблыкі, слівы.

У людзей, якія займаюцца пасільнай, не вельмі цяжкай фізічнай працай і працуюць у выхадныя на дачным участку, камяні ў нырках утвараюцца радзей ці прынамсі ў больш познім узросце ў параўнанні з тымі, хто вядзе маларухомы лад жыцця.

### Не любяць

● Не цярпіце! Рэгулярна апаражняйце мачавы пузыр (не менш як 4—6 разоў на дзень). Застой мачы дае магчымасць мікробам «асталёўвацца» ў ныручных канальцах. А гэта спрыяе развіццю піеланефрыту — інфекцыйна-запаленчага захворвання нырак.

● Не ператамляйцеся! Гэта падрывае імунітэт і ставіць пад удар ныркі.

● Сістэматычныя запоры вядуць да спазмаў мышцаў кішэчніка і мочавыводзячых шляхоў. Вынікам можа быць аслабленне тонусу мускулатуры нырак, парушэнне мочавыдзялення.

● Не спяшайцеся прысесці на непрагрэты халодны каменьчык, пясок, росную траву. З гэтага нярэдка пачынаюцца запаленчыя захворванні нырак. Холад, асабліва ў спалучэнні з вільгаццю, балюча «б'е» па нырках.

● Ныркі — сапраўдныя пястухі: моцную гарачыню яны таксама не любяць. Ім больш даспадобы «залатая сярэдзіна». Калі тэмпературны слупок зашкальвае за 30°С, арганізм губляе шмат вадкасці з потам, а колькасць солі, што выводзіцца праз ныркі, пры гэтым амаль не павялічваецца, што можа садзейнічаць развіццю мочакаменнай хваробы.

● Не хапайцеся без разбору за розныя дыеты! Рэзкае пахудзенне прыводзіць да апушчэння ныркі. А працяглая бяссолевая дыета парушае іх дзейнасць, садзейнічае з'яўленню бялка ў мачы. Першым аб пакутах нырак можа «расказаць» пярсцёнак на пальцы: калі ён раптам становіцца малым, не выключана, што прычына — ацёкі, якія суправаджаюць тыя ці іншыя ныркавыя захворванні.

● Вітамін С у таблетках у празмернай колькасці — часам правакуючы фактар утварэння камянёў у нырках, асабліва калі ёсць спадчынная схільнасць да мочакаменнай хваробы.

● Як лічаць некаторыя спецыялісты, ныркам не даспадобы такі многімі любімы ласунак, як шакалад з арэхамі.

● Колькі ўжо разоў папярэджвалі свет: самалячэнне небяспечнае. Ныркі дрэнна пераносяць сульфаніламіды. Каб яны лепш растаналі, не асядалі ў ныручных канальцах (што можа выклікаць цяжкую паталогію), больш піце, тады лякарства будзе выводзіцца з мачой. Найбольш ашчаджальнымі ў адносінах да нырак лічацца этазол, бісептол.

● Асцярожней з грыбамі! Сумніўныя экземпляры — з кошыкаў вон! Атручэнне ядавітымі грыбамі небяспечнае развіццём такога пагрозлівага стану, як вострая ныркавая недастатковасць.

### Звярніце ўвагу на колер мачы

Калі мача ружовага, чырвонага колеру, мутная, магчыма, у ёй утрымліваецца кроў. Гэта можа быць прыметай інфекцыі ці пухліны ў мочавыдзяляльнай сістэме. Не адкладвайце візіт да ўрача!

Цёмна-жоўты ці аранжавы колер — не прычына для хваляванняня. Калі вы мала выпілі вадкасці, мача становіцца больш канцэнтраванай і таму больш цёмнай.

Цёмна-карычневы колер мачы характэрны для гепатыту.

Зялёны ці блакітны колер мачы — не жарт прыроды і не прымета хваробы. Проста ў вашым рацыёне былі прадукты, якія ўтрымлівалі штучныя харчовыя фарбавальнікі такіх арыгінальных колераў.

На думку амерыканскіх навукоўцаў, нават калі ў чалавека артэрыяльны ціск павышаны нязначна, але адбываецца гэта працяглы час, рызыка захварэць ныручнай недастатковасцю ўзрастае ў тры разы.

### Каму пагражаюць захворванні нырак

● Худым і высокім, ці, як гавораць спецыялісты, людзям астэнічнага целаскладу. Тлушчавая капсула, якая дапамагае падтрымліваць ныркі ў нармальным становішчы, у іх параўнальна маларазвітая. А значыць нефраптоз (апушчэнне нырак) — цалкам рэальная пагроза.

● Жанчынам — яны пакутуюць рознымі ныручнымі хваробамі часцей за мужчын.

● Мужчынам сярэдніх гадоў і старэй. Праблемы з ныркамі ўзнікаюць у іх на фоне адэномы прастаты — мужчынскай хваробы № 1, іншых «узроставых» захворванняў мочапалавой сістэмы.

● Усім, хто не лечыць своечасова зубы і хваробы насаглоткі. Карыес (а таксама запаленчыя ачагі ў міндалінах, як, зрэшты, і ў любых іншых органах) часта выклікае захворванне нырак. Узбуджальнікі інфекцый, вандруючы з крывёй па ўсім арганізме, нярэдка «асядаюць» менавіта ў іх. Асабліва небяспечная ангіна.

● Абібокам. Выяўлена, што заняткі фізкультурай паляпшаюць і абмен рэчываў, і функцыі нырак.

*«Здоровье».*

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 26 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**

**9.00** Тэлебачанне — школе. Чалавек і свет. 2-гі клас. Дзівосны свет жывёл. **9.15** «Карантышкі з Кветкавага горада», «Нязнайка-паэт». Мультфільмы. **9.50** «Сто першы». Маст. фільм. 2-я серыя. **11.00** Тураб'ектыў. **11.20** Адкрыццё кінафестывалю «Лістапад-96». **11.40** Чацвёртае вымярэнне. Навукова-асветніцкая праграма. **12.25** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма. **15.00** Навіны. **15.10** «Хітрыкі гарэзы». Маст. фільм. **16.20** Тэлебачанне — школе. Геаграфія. 9-ы клас. Экалагічныя праблемы Беларусі. **16.50** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **17.15** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.45** Востры вугал. Прававая праграма па пісьмах гледачоў. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Музычны антракт. **18.35** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** «Заставайцеся з намі». Сустрэча тэлегледачоў Міёрскага раёна з супрацоўнікамі Белтэлерадыёкампаніі. **19.40** «Трапічная спёка». **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.10** А. Абаленская і А. Фінагеева ў маст. фільме «Незабудкі». **23.55** Навіны. **0.10** Веласпорт. Кубак нацый «Тур дэ Франс».

**ГРТ**

**11.00** Навіны (з сурдаперакладам). **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.55** Вія Артмане і Івар Калныньш у фільме «Тэатр». 1-я серыя. **13.05** Джэнтльмен-шоу. **13.35** Брэйн рынг. **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Касмічныя ратавальнікі лейтэнанта Марша». **14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.55** Мульціtролія. **15.10** Чароўны свет, ці Сінема. **15.40** «Карын і яе сабака». **16.05** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** «Вакол свету». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** Адгадай мелодыю. **19.00** Тэма. **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.45** Людміла Касаткіна і Павел Кадачнікаў у фільме «Утаймавальніца тыграў». **22.40** Хакей. Рашаючы матч у падгрупе. «Дынама» (Масква) — «Чэске-Будзеевіцэ» (Чэхія). **0.15** Прэс-экспрэс.

**Расія**

**6.00** Ранішні экспрэс. **6.25** Па дарозе на працу. **6.35** «Чараўнік Ізумруднага горада». 2-я серыя. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **7.20** Экспавеснік. **7.30** Ранішні экспрэс-2. **8.00** Рэтра-шлягер. **8.25** Дарагая рэдакцыя... **8.55** «Санта-Барбара». **9.50, 10.20, 23.25** Тавары — поштай. **16.20** Блак-нот. **16.35** «Чэленджэрс». **17.05** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.15** Пункт апоры. «Наш двор». **17.40** Надзвычайны канал. **18.10** Лідэр-прагноз. **18.40** Асабліва важныя персоны. **19.30** «Санта-Барбара». **20.30** Раз у тыдзень. **21.00** Надвор'е. **21.10** Мужчына і жанчына. **21.50** Ціхі дом. Праграма С. Шолахава. **22.30** Начное жыццё гарадоў свету. **23.35** Тыдзень «Высокай моды». **23.50** Музыка ўсіх пакаленняў. **0.05** Хто на што здатны. **0.15** Гарачая дзесятка.

**Санкт-Пецярбург**

*Да 16.50 тэхнічная прафілактыка.* **16.50** Скарбы Пецярбурга. Рускі музей. **17.05** Дзецям пра звяранят. **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **18.55, 21.55** Інфарм ТБ. **19.15** Спорт. **19.25** «Гісторыя кахання». Серыял. **20.15** Храм. **20.45** Тэлеслужба бяспекі. **21.00** «Забойны аддзел». Серыял. **22.05** Спартыўны агляд. **22.15** Падзея. **22.30** «Старэйшы сын». Маст. фільм. 1-я серыя.

**НТБ**

**16.30** «Блакітнае дрэва». Маст. фільм. **17.30** «Вуліца Сезам». Праграма для дзяцей. **18.00, 21.00** Сёння ўвечары. **18.35** Герой дня. **19.00** Мір кіно. «Блюз злога сабакі». Маст. фільм (ЗША). **21.35** «За межамі магчымага». Серыял (ЗША). **22.30** Часінка. **23.00** Сёння апоўначы. **23.20** Меламанія. «Наталі Коўл».

**8-ы канал**

**18.00** «Амерыканскія казкі Файвела». Мультфільм. **18.30** Ералаш. **18.45** «Жанчына, якая спявае». Маст. фільм. **20.00** Мульт-планета. **20.15** «Слізготныя». Серыял. **21.45** Бізнес па-англійску. **22.15** «Кампраметуючыя позы». Маст. фільм. **23.55** Без каментарыя.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7430.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12